

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 2(73) Люты 2000 February Год выд. 8.


## ЗАЯВА ЗША ў СПРАВЕ БЕЛАРУСІ

*Заява Дзяржаўнага Дэпартамэнту Злучаных Штатаў Амэрыкі ў справе Беларусі "Беларусь: параза законнасьці".*

Апошнія падзеі ў Беларусі сымбалізуюць сабой працяг рэпрэсіяў і далейшае пагаршэньне пэрспэктываў вырашэньня канстытуцыйнага і палітычнага крызысу ў краіне. 19 студзеня 2000 году распачаўся судовы працэс над былым прэм'ер-міністрам Міхаілам Чыгіром.

Супраць Чыгіра, які правеў 9 месяцаў у зьняволеньні, былі высунутыя палітычна матываваныя абвінавачаньні ў сакавіку 1999 году пасля таго, як ён высунуў сваю кандыдатуру на прэзыдэнцкіх выбарах. 14 студзеня 2000 году былы міністар сельскай гаспадаркі Васіль Лявонаў, які правеў у зьняволеньні каля 2 гадоў, быў засуджаны да чатырох гадоў турмы на падставе сфабрыкаваных абвінавачаньняў. Як і ў выпадку Чыгіра, так і ў справе Лявонава адзінай вінoй абвінавачанага была нязгода з палітыкай рэжыму Лукашэнкі.

Сярод іншых падзеяў адзначым: працяг палітычнага працэсу над былым дэпутатам парлямэнту Андрэем Клімавым, якога жорска зьбілі ахоўнікі ў турме 13 снежня 1999 году; прызнаньне вінаватым маладога актывіста дэмакратычнага руху Яўгена Асінскага за тое, што ён браў удзел у антыўрадавай дэманстрацыі; адмову ўладаў расьсьледаваць справу зьбіцьця юрыста, спэцыяліста ў галіне правоў чалавека Алега Волчака, які падаў скаргу ў справе зьбіцьця яго міліцыяй падчас антылукашэнкаўскай дэманстрацыі 21 ліпеня 1999 году.

Урад ЗША асуджае рост рэпрэсіяў і выказвае сваю падтрымку тым, хто імкнецца да правядзеньня ў Беларусі дэмакратычных рэформаў. Мы патрабуем ад рэжыму Лукашэнкі прыпыніць перасьлед яго палітычных апанентаў.

Гэтыя дзеяньні неабходныя, калі ўлады хочуць, каб дыялёг з апазыцыяй пад эгідай АБСЭ меў бы хоць нейкі шанец на посьпех.

**Вашынгтон, 24 студзеня 2000 году.**



**Сп-ня Яніна КАХАНОЎСКАЯ —**

**зназная культурна-грамадзкая і рэлігійна-нацыянальная дзеячка на Беларусі, у Заходняй Эўропе і Нью-Ёрку, выдатная і нястомная працаўніца на ніве беларускага адраджэньня, палымяная патрыётка свайго народу.**

**Дарагая Яніна! Шчыра віншуем Вас з 90-мі Ўгодкамі жыцьця.**

## *У Польшчы пашыраюцца пратэсты*

*супраць расейскай ваеннай акцыі ў Чачні і палітыкі ў дачыненьні да Беларусі. Падчас маніфэстацыі на гэтым тыдні перад кансулятам Расеі ў Кракаве яе ўдзельнікі прынялі рэзалюцыю, у якой патрабуюць спыніць вайну ў Чачні і працэс захопу Беларусі.*

"Расея вяртаецца на рэйкі імпэрскай палітыкі. – Гаворыцца ў заяве. – Ідзе вайна ў Чачні, узмацняецца расейскі ўплыў шляхам стварэньня саюзу Расеі і Беларусі. Да Расеі, якая выкарыстоўвае ў сваей палітыцы дзяржаўны тэрарызм і генацыд, нельга ставіцца як да дэмакратычнай дзяржавы. Патрабуем вываду расейскіх войскаў з Чачні, пакараньня вінаватых за генацыд, і прыпыненьня працэсу захопу Беларусі. Лічым што Расея павінна быць выключана з Рады Эўропы".

У Любліне дзе мясцовыя парлямэнтары прыймалі дэлегацыю Беларускага Народнага Фронту пад кіраўніцтвам Зянона Пазьняка, была прынятая заява. У ёй у прыватнасьці гаворыцца:

"Кіраўніцтва партыі Рух Адбудовы Польшчы і парлямэнтары Люблінскага ваяводства выступаюць за захаваньня сувэрэннасьці дзяржаваў, якія паўсталі ў выніку распаду Савецкага Саюзу, у тым ліку і Рэспублікі Беларусь. Заклікаем парлямэнты, урады і міжнародныя арганізацыі сьвету зрабіць усё магчымае дзеля посьпеху палітычнага дыялёгу з мэтай захаваньня правоў чалавека ў Беларусі…"

*Сяржук Сокалаў-Воюш, Прага*

### Войска

Па прызыву, які зараз праходзіць у Беларусі, прыдатнымі да ваеннай службы прызнаны 61,5% ад агульнай колькасці грамадзян, якія прайшлі медкамісію. Часова не належаць прызыву 10% маладых грамадзян. Не прыгоднымі да службы ў мірны час лічацца 27,7% ад колькасці тых, хто прайшоў медкамісію. На сённяшні дзень каля тысячы юнакоў не з'явіліся па выкліку прызыўных камісій.

### Двухмоўе

Пасля таго як кіраўніцтва Таварыства беларускай мовы звярнулася ў Канстытуцыйны суд з просьбай пасадзейнічаць таму, каб усе бланкі афіцыйных дакументаў міністэрстваў і ведамстваў выдаваліся не толькі на рускай, але і на беларускай мове, з'явілася адпаведнае пісьмо за подпісам С. Лінга. У ім прэм'ер-міністр Беларусі абавязаў кіраўнікоў рэспубліканскіх органаў дзяржкіравання, аб'яднанняў, падначаленых ураду, аблвыканкамаў і Мінскага гарвыканкама абавязкова выконваць патрабаванні заканадаўства аб ужыванні ў афіцыйнай перапісцы і на бланках дзвюх дзяржаўных моў.



**Паважаныя чытачы! "Беларускаму Дайджэсту" патрэбная грашовая дапамога. Не забывайце перасланць ахвяру на выдавецкі фонд нашае газэты. Прыядноўвайце новых чытачоў і прыхільнікаў!**

## «Я яшчэ маладая — мне толькі 90 год!..»

27-га лістапада 1999 г. у адным з рэстаранаў на Мангатане сабралася каля 80-ці чалавек, каб аддаць дань павагі і любові спд. Яніне Кахаоўскай у яе 90-ю гадавіну народзінаў.

Вялікую неспадзяванку для юбіляркі зрабіла сваім прыездам з Нямеччыны яе, так званая, трэцьцяя дачка Галіна Руднік і ейны сын Юрка з Тэксасу. А з Прагі прыляцеў унук Данчык.

Спд. Яніна ад 50-х гадоў брала актыўны ўдзел у жыцьці беларускай дыяспары ў Амэрыцы. Спачатку яна працавала на фабрыцы, а потым у рэдакцыі радыё "Свабода" і ўвесь час была нязьменнай сакратаркай БАЗА.

Др. Ян Запруднік сваёю прамовай адчыніў урачыстую вечарыну. Ён падкрэсьліў асобую адметнасьць характару спд. Каханоўскай: "Гэта заўсёдышняя раўнавага, спакой і лёгкая ўсьмешка". Былая балярына беларускага тэатру спд. Вілія Ляўчук ня толькі прадэклямавала свой уласны верш, прысьвечаны спд. Яні, але і прасьпявала «Сто год». Айцец Васіль Андрыюк з Нью Джэрзі адзначыў, што спд. Яніна вельмі паважае людзей. А сп. Францішак Бартуль узгадаў 1944 год, калі ён упершыню

(Далей гл. на стр. 3-ай)

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108;—Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і дописы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# МАРШ СВАБОДЫ -- 2

*"Марш Свабоды – 2" адбудзецца ў беларускай сталіцы 15 сакавіка й распачне "Вясну 2000" – ланцуг апазыцыйных акцыяў, пра якія сёньня абвесьцілі палітыкі "новай хвалі". На сумеснай прэсавай канфэрэнцыі прадстаўнікі БНФ "Адраджэньне", "Народнае Грамады", АГП і "Хартыі-97" заявілі, што разьлічваюць на ўдзел у акцыях 150 тысячаў чалавек.*

Чырвоныя швэдары, у якія на прэсавай канфэрэнцыі былі апранутыя палітыкі "новай хвалі", на тле белых сьценаў нямецкага адукацыйнага цэнтру выглядалі вельмі эфэктна й падкрэсьлівалі значнасьць працэдуры прэзэнтацыі "Вясны 2000".

25 Сакавіка (на Дзень Волі) адбудзецца наступная масавая акцыя, галоўны сэнс якой – барацьба за захаваньне беларускае незалежнасьці. Завершыць "Вясну 2000" Чарнобыльскі Шлях 26 красавіка.

Сярод веснавых манфэстацыяў апазыцыі былі названыя: акцыя моладзі "Беларусь у Эўропу" 14 лютага, акцыя аўганцаў 15 лютага, акцыі прадпрыймальнікаў і прафэсійных зьвязаў.

Пра сваю кансалідаваную пазыцыю на сёньняшняй прэсавай канфэрэнцыі заявілі ініцыятары "Вясны 2000" Вінцук Вячорка й Віктар Івашкевіч ад БНФ, Анатоль Лябедзька, Павал Данэйка і Аляксандар Дабравольскі ад АГП, Мікола Статкевіч ад "Народнай Грамады" і Зьміцер Бандарэнка ад "Хартыі-97".

Як заявіў старшыня БНФ "Адраджэньне" Вінцук Вячорка:

**(Вячорка:)** "У выніку вясны 2000 мусіла б паўстаць сытуацыя, у якой рэжым альбо пагаджаўся б на перамоўны працэс, і мы б выйшлі на сапраўды дэмакратычныя, міжнародна прызнаныя выбары, альбо ўшзьнікла б сытуацыя, у якой рэжым мусіў бы сысьці. Акцыі вясны 2000 павінны быць зьвязаныя ў суцэльны ланцужок, гэта не павінна быць адна акцыя, і што вельмі важна – усе акцыі мы ладзім разам. НЯ будзе падзелу на партыйныя інтарэсы".
– паведаміў Вінцук Вячорка, які падкрэсьліў, што з набліжэньнем 26 сакавіка – дню выбараў прэзыдэнта Расеі – узрастае небясьпека актывізацыі інтэграцыйных працэсаў. Менавіта таму старшыня "Народнае Грамады" Мікола Статкевіч асноўным вынікам "Вясны 2000" назваў беларускую незалежнасьць:

**(Статкевіч:)** "Гэты год будзе вырашальным для беларускай незалежнасьці, на жаль. Могуць быць прынятыя захады ў дачыненьні да беларускай незалежнасьці з боку новага рэжыму ў Расеі. Будзе галоўнаю незалежнасьць".
Заявіў Мікола Стакевіч.

Паводле словаў спадара Бандарэнкі, у "Маршы Свабоды" возьме ўдзел блізу 150 тысячаў чалавек. Марш, як разьлічваюць арганізатары, пройдзе ад пляцу Якуба Коласа да пляцу Незалежнасьці, бо 15 сакавіка – дзяржаўнае сьвята, Дзень Канстытуцыі.

На прэсавай канфэрэнцыі была выказаная перасьцярога з нагоды магчымых правакацыяў уладаў, што, як лічаць ініцыятары першага "Маршу Свабоды", мела месца 17 кастрычніка летась. Таму, як паведаміў намесьнік старшыні АГП дэпутат Анатоль Лябедзька, арганізатары будуць зьвяртацца і ўжо зьвярнуліся ў міжнародныя арганізацыі.

Паводле словаў Анатоля Лябедзькі, прэзэнтацыя беларускае "Вясны 2000" ужо адбылася 14 лютага ў Вене на паседжаньні парлямэнцкай асамблеі АБСЭ.

Назіральнікі зьвярнулі ўвагу на адсутнасьць на сёньняшняй прэзэнтацыі прадстаўнікоў Беларускага Народнага Фронту пад кіраўніцтвам Зянона Пазьняка. Выконваючы абавязкі старшыні Кансэрватыўна-хрысьціянскае партыі БНФ Юры Беленькі паведаміў, што акцыі, накіраваныя на захаваньне незалежнасьці, будуць падтрыманыя партыяй БНФ. Сябры гэтае партыі будуць браць удзел у акцыях "Вясны 2000".

**Юрась Карманаў, Менск**

# Інтэрв'ю з Васілём Быкавым...

Сусьветна вядомы беларускі пісьменьнік Васіль Быкаў 17 студзеня даў інтэрв'ю расейскаму радыё "Свабода"

Беларускі рэжым праводзіць рэваншысцкую палітыку, і ягонай сапраўднай мэтай зьяўляецца зварот у камуністычнае мінулае. Такую думку выказаў народны пісьменьнік Беларусі Васіль Быкаў у передачы расейскай службы радыё "Свабода" "Тварам да твару". Па словах пісьменьніка, Беларусь "як дзяржава, як сябра й заснавальнік ААН мае права на ўласнае незалежнае існаваньне, а тое, што робяць Лукашэнка й ягоны рэжым, скіраванае на поўную ліквідацыю гэтай незалежнасьці".



Васіль Быкаў лічыць, што пад прыкрыцьцём інтэграцыі з Расеяй ў Беларусі "ліквідуецца нацыянальная культура, нацыянальная літаратура, нацыянальная мова", беларускай культурай "кіруюць былыя савецкія палкоўнікі з камуністычнай ментальнасьцю". У той жа час пісьменьнік падкрэсьліў, што рэальная інтэграцыя яшчэ не пачыналася, бо ў эканамічным пляне "Беларусь і Расея -- цалкам розныя сусьветы, эканоміка Беларусі цалкам сацыялістычная, і толькі расейскія фінансава-прамысловыя групы зацікавяцца былымі савецкімі прадпрыемствамі". Пры гэтым Быкаў зазначыў, што "эканомікі Беларусі й Расеі знаходзяцца ў яме, зь якой ім ня выбрацца, магчыма, ніколі". "Сацыялістычная эканоміка пашкоджаная вірусам СНІДа. Яна можа быць аздароўленая толькі пасьля таго, як пампэ і ўваскрэсне," - сказаў ён. На думку пісьменьніка, адносіны дзьвюх краінаў могуць быць самымі цеснымі і ўзаемавыгоднымі на аснове інтэграцыі кшталту Эўразьвязу, што зьяўляецца "самай разумнай і дэмакратычнай формай аб'яднаньня".

На пытаньне, чаму беларускі народ маўчыць, калі бачыць шматлікія парушэньні законаў з боку ўладаў, пісьменьнік адказаў выразам былога кітайскага кіраўніка МАО Цзэдуна: "Народ - гэта чысты аркуш паперы, на якім можна напісаць любы ерогліф". Высокі рэйтынг Аляксандра Лукашэнкі Быкаў патлумачыў тым, што той выконвае "папулярныя патрабаваньні народа да прадстаўніка ўлады" - умець "дастаць і выбіць". Па словах пісьменьніка, калі ў краіне няма грошай і энэрганосьбітаў, гіпэрінфляцыя, Лукашэнка можа паехаць у Маскву і з "сатанінскім напорам" выбіць у расейскага ўрада ўсё неабходнае.

Як паведаміў Быкаў, у сувязі са сканчэньнем дзеяньня фінскай візы ён вярнуўся ў Менск. Пісьменьнік мае намер зьехаць зь Беларусі, калі яму зноў "патрапіцца магчымасьць больш прыймальнага і цярпімага існаваньня". "У Менску я не магу пісаць. У мяне халодная кватэра, і са сваімі хворымі лёгкімі я вельмі хутка загнуся," -- сказаў ён. Быкаў адмовіўся размаўляць пра палітычныя матывы свайго ад'езду ў Фінляндыю. "Матываў занадта шмат, каб іх варушыць". Тое, што беларускія ўлады ігнаруюць Быкава і ствараюць яму перашкоды, ён патлумачыў так: "Ёсьць гурт пісьменьнікаў, якія пішуць добра пра Лукашэнка, ухваляюць рэжым. Яму гэтага дастаткова, усяго астатняга ён не прымае".

# "Беларуская праблема" ў Страсбургу...

*У Страсбуру пачынаецца штоквартальная сэсія Парлямэнцкай асамблеі Рады Эўропы, пад час якой 25-га й 26 студзеня будзе разгледжаная гэтак званая "беларуская праблема".*

Зь ініцыятываю разгледзець становішча ў Беларусі выступілі палітычны камітэт, якім кіруе швайцарац Віктор Руфі, і справаздаўца па Беларусі Вольфганг Бэрандт, які адначасова ўзначальвае дэлегацыю парлямэнтарыяў Нямеччыны.

У Страсбур запрасілі кіраўніка рабочае групы па Беларусі Парлямэнцкай асамблеі АБСЭ Адрыяна Севярына, кіраўніка кансультатыўна-назіральнае групы АБСЭ ў Менску Ганса-Георга Віка, а таксама дзьве парлямэнцкія дэлегацыі: Вярхоўнага Савету на чале з Анатолем Лябедзькам і гэтак званага Нацыянальнага Сходу пад кіраўніцтвам Уладзімера Канаплёва. Разам з Лябедзькам у Страсбур накіраваліся Генадзь Цярэня й Сяргей Калякін.

Наколькі эўрапейскіх парлямэнтарыяў цікавіць сытуацыя ў Беларусі? У пэўнай ступені адказ на гэтае пытаньне быў дадзены ў Страсбуру яшчэ 14 студзеня, калі бюро Парлямэнцкай асамблеі ўдакладняла парадак дня маючай адбыцца сэсіі. Звычайна любое пытаньне на сэсіі разглядаецца на адным з трох узроўняў: непасрэдна на сэсіі, на бюро, на паседжаньні аднаго з камітэтаў. Што тычыцца Беларусі, дык было вырашана разгледзець сытуацыю двойчы – на камітэце й на сэсіі.

На самым высокім узроўні будзе разгледжана й пытаньне пра дзеяньні Расеі ў Чачні. Учора перад адлётам у Страсбур Сяргей Калякін заўважыў, што выключэньне Расеі са складу Парлямэнцкай асамблеі Рады Эўропы, на ягоную думку, мела б нэгатыўны ўплыў на беларускія справы. У такім выпадку Лукашэнку будзе прасьцей кансалідавацца з новым маскоўскім кіраўніцтвам і супольна адгарадзіцца ад астатняй Эўропы жалезнай заслонаю.

Анатоль Лябедзька лічыць: у Страсбуру дэлегацыя Вярхоўнага Савету павінна паведаміць Радзе Эўропы, што беларускія ўлады не выконваюць свае абяцаньні, якія неаднаразова давалі розным міжнародным арганізацыям, у тым ліку й самой Радзе Эўропы.

Нагадаю, што першыя слуханьні па Беларусі ў Страсбуру адбыліся яшчэ ў чэрвені 1997 году, другія – у красавіку 1999-га.

Як суверэнная дзяржава, Беларусь сярод іншых постсавецкіх краінаў у свой час атрымала статус «адмыслова запрошанага». Аднак узьняцца на наступную прыступку й стаць паўнапраўным сябрам міжнароднай арганізацыі не змагла. Больш таго, згубіла нават тое, што мела... 13 студзеня 1997 году Бюро Парлямэнцкай асамблеі вырашыла пазбавіць Беларусь статусу "адмыслова запрошанага». Прычына – гэтак званы рэфэрэндум у лістападзе 1996 году.

Такім чынам, зараз за бортам Парлямэнцкай асамблеі Рады Эўропы застаюцца толькі Югаславія і Беларусь.

**Уладзімер Глод, Менск**

# С. Шарэцкі ў Канадзе ЗША...

*22 студзеня распачаўся неафіцыйны візыт у Канаду й ЗША старшыні Вярхоўнага Савету Беларусі 13-га скліканьня Сямёна Шарэцкага.*

Плянуецца, што візыт завершыцца 29 студзеня сустрэчай спадара Шарэцкага зь Дзяржаўным сакратаром ЗША Мадлэн Олбрайт. Пра гэта паведамляе старшыня міжнароднае камісіі Вярхоўнага Савету Анатоль Лябедзька.

Сямён Шырэцкі выехаў у Канаду на запросіны аднаго з унівэрсытэтаў. Там ён прачытае публічныя лекцыі пра сытуацыю ў Беларусі. Актыўны ўдзел у падрыхтоўцы візыту брала прэзыдэнт Рады БНР Івонка Сурвілла.

(Працяг са стр. 1-ай)

пазнаёміўся з спд. Каханоўскай: "Як узрываліся міны каля Ліды, усе чыста былі ў паніцы, а спд. Яніна сваёй дыспазыцыяй спакою нас суцяшала". — "Так спд. Яніна Каханоўская падтрымлівала на духу беларускіх афіцэраў", — пажартаваў Ян Запруднік.

Словы зьмяняліся песьнямі і танцамі. Пад акампанімэнт кампазытара Яўгена Магаліфа першы вальс праганцавалі спд. Яніна з А. Тальянскім.



Старэйшы ўнук Юрка вітае бабулю. Побач — спадарыня Н. Запруднік.

Старшыня БАЗА сп. Антон Шукелойц падрыхтаваў стэнд з фотаздымкамі продкаў юбіляркі, сем'яў Луцкевічаў і Шабуняў. Ён вельмі падрабязна і расчулена расказаў прысутным пра лёс родных спд. Яніны і летапіс яе ўласнага жыцьця.

Сакратарка Нью-Ёрскага Аддзелу БАЗА спд. Галіна Навумчык прывітала спадарыню ад імя новай эміграцыі і радыё "Свабода", а др. Ян Запруднік прачытаў цёплае жартаўлівае віншаваньне ад шэфа беларускае сэкцыі радыё "Свабода" сп. А. Лукашука. Шчыра вітала юбілярку Ала Кузьміцкая. Адна з новых эмігрантаў Люба Карпава сказала, што ў спд. Яні яна ўбачыла вобраз простай і вялікай духам, працавітай і такой роднай, поўнай душэўнай дабрыні, беларускай жанчыны маці, і прыпаднесла юбілярцы два цудоўныя на выгляд і смак вялікія торты сваёй работы.

Былі пытаньні аб тым, як удалося спд. Яніне застацца такой маладой у свае 90 год. Адказ адзіны — праз добразычлівасьць і любоў да людзей.

Мастачка спд. Г. Русак давяла, што "спд. Каханоўская нясе ў сабе натуральную, прыродную пашану да сваёй спадчыны, што гэта ня ёсьць накінутае, гэта ёсьць прыроджанае. А найлепшы доказ яе любові да сваёй спадчыны — гэта ейная сям'я, у якой ня толькі дзеці, але і ўнукі валодаюць вельмі добрай беларускай мовай".

Трэба сказаць, што спд. Яніна выхавала дзьвух дачок Юлю і Элеанору, чацьвярых унукаў і мае трох праўнукаў. Усе яны ды сям'я яе брата Эдварда былі прысутнымі на вечарыне. І амаль кожны прамоўца сказаў пра тое цяпло душы, якое спд. Яніна дорыць усім, з кім сустракаецца ў жыцьці. А старэйшы ўнук Юрка Андрусышын абняў сваю бабулю, пацалаваў і сказаў: "Спд. Русак, вы тут так ухвалялі мяне, Данчыка, Ніну і Віктара, што добра гаворым па-беларуску. Данчык то так, але я многа забыў. Я ведаю, што яна зрабіла нам славу, але для мяне гэта проста мая бабця! І я хацеў-бы падняць чарку віна і пажадаць ёй 100 год!"

Вечарына адбылася вельмі ўдала. Госьці доўга не хацелі разыходзіцца... а ад сябе дадам, што калі ёсьць такія беларускія жанчыны, як Яніна Каханоўская, то Беларусь будзе жыць!

*Валянтына Якімовіч.*

# ЧЫЯ ТЫ, МАТУХНА РАСЕЯ?

АЛЕГ КАРПОВІЧ Сваб. Нов."

Кожны час мае сваіх герояў... Герояў, ворагаў, прэзідэнтаў... І бардаў. Здаецца, яшчэ зусім нядаўна ў недасягальнай вышыні ззялі нешматлікія яркія зоркі паўстанца Сокалава-Воюша, самотнага блазна Шалкевіча, рускамоўнага эстэта Шэдзько... І раптам заззяла яшчэ адна зорка - вытанчанага хулігана Бартосіка. Зміцер Бартосік з родавага гораду Ніжні Ноўгарад. Продкі па бацьку - адэскія палякі. Апошні адэскі Бартосік на Прывозе рыбай гандляваў. А ўжо бард Бартосік у Ніжнім жыў на адной вуліцы з Максімам Багдановічам (праўда, у розны час) - на Канатнай. Сям'я бацькоў Зміцера тэатральная, таму і не дзіва, што спяваў з дзяцінства. Як кажа сам, выпадкова зняўся ў эпізодзе кінафільма "Чужая бацькаўшчына", за што і атрымаў свой першы ганарар у памеры 60 рублёў. Купіў "Крэмону" і з тых часоў спявае ўжо пад гітару.

-- ...І пайшло-паехала. Аб'явіўся ў Вільні - валяў там дурака. Выпадкова сустрэў рэдактара "Нашай Нівы" Дубаўца. Той мне і сказаў: "Бадзяешся тут, рабіць табе няма чаго, вазьмі лепш ды напішы што-небудзь для газеты. Калі атрымаецца не хрэнаценъ - пастаўлю ў нумар". Ну, думаю, дзядзя добры, вясёлы такі, жартуе. Але ж не да такой ступені! Усё ж напісаў. Пра Ніжні Ноўгарад свой, пра Расею. Здаецца, атрымалася не хрэнацень. Пішу і да гэтай пары. Дзякуючы "НН" пазней апынуўся у Мінску. А нядаўна зноў пісаў пра Расею...

-- Што, пацягнула на гістарычную радзіму?

-- З'ездзіў дзякуючы Ігару Забару ў Цюмень. Ад-міністрацыя Цюменскай вобласці вырашыла правесці Дні беларускай культуры. А наш Мінкульт вельмі слушна з свайго боку вырашыў паслаць туды кампактны Малы тэатр. Невялічкая трупа, няхітрыя дэкарацыі, лубочная "Камедыя" і эстэцкі "ART". Усё АД і ДА, як кажацца. І перавезці ўсё гэта можна за не так дорага. Забара і кажа: "Паехалі з намі, "чтецом" будзеш". Лёгкі на пад'ём, з задавальненнем прыняў прапанову - чаму б не праехацца за тры тысячы кіламетраў, тым больш у Цюмені раней не бываў. З'ездзіў. Паглядзеў. Параўнаў Цюмень з Еўропай.

Беларусь адназначна - Еўропа. Усё так чысценька і міла. У Цюмені іржава, брудна і неарганізавана. Але ж, з іншага боку, у Расеі ёсць свая расейская гарадская культура. Гэта краіна гарадоў, хаця Цюмень мне не спадабалася - бессэнсоўны горад, першае пасяленне Расеі за Уралам, у якое пачалі укладваць бабкі толькі калі знайшлі цюменскую нафту. Як культурны цэнтр, як горад - яна малацікавая.

Цудоўна нас сустракалі землякі. Яны там заўжды рады людзям з Беларусі - давайце піць, гуляць! І мы пілі, гулялі, па кабаках хадзілі. Жывуць рускія беларусы там і абсалютна не шкадуюць, што пакінулі радзіму - усё ж там большыя магчымасці рэалізаваць сябе. У бізнесе. Але адчуванне сябе нацыянальнай меншасцю сярод іх ёсць, а вось адчування таго, што адбываецца тут, зусім няма. Яны гэтага не ведаюць. Калі я ім спяваў свае песні, для іх гэта было дзікае адкрыццё. Людзі, цалкам адарваныя ад нашага палітычнага беларускага кантэксту. Любяць Лукашэнку. І гэта нармальна - быў бы тут Пазьняк, яны б і Пазьняка любілі. Майго "Дон Лукаса", на жаль, спяваць для іх няма сэнсу. Данчыка не ведаюць, але "Купалінку-Купалінку" так прасілі мяне заспяваць! Калі параўноўваць, дык сённяшняя Беларусь яшчэ выглядае савецкай школьніцай-троечніцай, Расея ўжо канкрэтная валютная шалава. Паўсюль пануе дух чыстагана. Як толькі крыху багацейшы край - на кожным аўтобусным прыпынку лаўка, бы "універсам", дзе можна набыць усё: чырвоную ікру, выпіўку, адзенне - толькі плаці. Што Вільня, што Прага, што Цюмень - розніцы ніякай.

Але чуць бяднейшы рэгіён (Уладзіміршчына, Іванаўшчына), ужо проста жах: на дарогах стаяць 16-гадовыя дзяўчынкі і гандлююць сабой за бясцэнак. Мінет на дарозе каштуе менш за два даляры. Сам я такімі паслугамі не карыстаўся, але прапанова сапраўды была - за 50 расейскіх рублёў. Для сексуальна заклапочаных Расея рай - гатэльная прастытутка каштуе 7-8 даляраў. Нашы дзеўкі да такога не апускаюцца, хоць узровень жыцця ўсё ж у нас ніжэйшы. Расея ўжо канкрэтная чыстаганная капіталістычная краіна, толькі без гэтых еўрапейскіх сацыяльных замарочак. Я не быў у Нігерыі ці Бразіліі, але, здаецца "я вырос в трущобах городских" для гэтых краін і Расеі - агульнае. А чамусьці такіх каларытных бамжоў, як на мінскім вакзале, у Цюмені не бачыў. Можа, яны ўсе сюды падаліся? Бамжы ж, як птушкі, злятаюцца ў цяплейшыя краі. Ці людзі тут дабрэйшыя, болей падаюць?

А больш за ўсё, пакуль знаходзіўся ў Цюмені, стаміўся ад бруду. Я не мог зразумець у чым справа? Чаму ў іх няма такіх паняццяў, як тратуар і праезжая частка дарогі. Усё гэта нешта агульна "чавкающе-жвякающее". У цэнтры горада, як у карыце. Шкада жанчын, што красуюцца ў гэтым балоце ў дарагіх шмотках і боціках. Першае, ад чаго ловіш кайф, вяртаючыся ў Мінск, тут можна цвёрда маршыраваць па чыстым асфальце. Нашу прывакзальную плошчу не бярэм, канешне, - гэты бамжатнік у нас усё яшчэ ў стане вечнай будоўлі, усё яшчэ фармуецца.

-- А ўсё ж - якімі бачаць нас расейцы, чым мы адрозніваемся ад іх, братоў нашых?

-- Тут Беларусь. Тут Русью "пахнет".
Але даўно ўжо не Белай,
Што так пакутліва канае
І ўжо амаль што анямела...

Так, беларусы ў сваіх мазгах адтуль, з Расеі, яшчэ не выйшлі. Расейцы ж самі з Савецкага Саюзу выйшлі ўжо даўно. Таму яны і ўспрымаюць нас як замежнікаў. Ім і цікава ўспрымаць нас як іншаземцаў, самім шукаць нейкія адрозненні паміж рускімі і беларусамі. А тут... Ці ў гэтым тэлебачанне вінавата, што нашы ўспрымаюць усё, што робіцца ў Маскве, як сваё, а тое, што паказвае БТ пра нас - быццам бы гэта недзе "там, у Мінску". І што трэба зрабіць, каб беларусы нарэшце ўспрынялі сябе як нешта асобнае? Можа, для гэтага трэба яшчэ раз туды, у гэтую Расейскую Федэрацыю, увайсці? Каб кожны ўжо на сабе "почувствовал разницу"? Можа, наш шаноўны прэзідэнт верыць у той Саюз? Сумняваюся. І я не веру ў такое глупства. Бо па тым, як адчуваюць нас рускія, Беларусь у Саюзе можа быць толькі беларускім краем у саставе Расейскай Федэрацыі...

Памятаю выпадак з дзяцінства - у Ніжнім Ноўгарадзе, на будынку старога банка расцягнуты чырвоны плакат з тэкстам-віншаваннем: "Великому Октябрю - 60 лет". Над плакатамі - вялізны шэры барэльеф двухгаловага арла, збіць якога за 60 гадоў так і не змаглі. Арол кампазіцыйна забівае і "великий октябрь", і "60 лет"... Было гэта яшчэ пры Брэжневе. Зараз ужо і відавочна - забіў.

Паводле "СН"



## КАРОТКІЯ НАВІНКІ...

Міністэрства адукацыі Чэхіі пастанавіла даць магчымасьць закончыць вышэйшую навуку ўсім тым беларускім студэнтам, якія былі выключаныя з беларускіх (правільней рускіх) навучальных установаў па палітычных матывах.

Падборам кандыдатаў на навуку ў Празе будзе займацца БНФ— "Малады фронт". Кандыдаты на заграны́чную адукацыю павінны ведаць сваю родную беларускую мову...

* * *

Нядаўна пачало сваю працу радыё "Рацыя" ў Беластоку. Перадачы пакуль аднагадзінныя, штодзённа ад 16 да 17 гадзіны. У іх навіны па-беларуску, па-польску, музыка і іншае. Перадачы накіроўваюцца на Беласточчыну і Беларусь. Супрацоўнікі радыёстанцыі набіраліся на конкурснай аснове. Усіх іх каля 10-ці чалавек. А ў Вільні таксама пачала сваю працу радыёстанцыя "Балтыйскія хвалі". Яна вяшчае беларускія праграмы на Беларусь.

Жадаем посьпехаў і пашырэньня часу перадачаў...

## Беларусь пасьля Лукашэнкі

Каб мець лепшую будучыню, трэба яе сабе ўяўляць. Мары, вядома, справа добрая, але практычнага толку ад іх ня больш, чым ад спадзеву, што ўсё неяк зьменіцца само. Сёньняшнія мары пра дэмакратыю, рынак і незалежнасьць надта нагадваюць рамантычныя абстракцыі мінулага стагодзьдзя — пра свабоду, роўнасьць і братэрства. Як і тады, сёньня або спадзяесься на цуд, або ідзеш гатовы загінуць за Беларусь, або ўжо нікому і ні ўва што ня верыш. Словам, жывеш як нявольнік або змагар, а не як гаспадар і будаўнік. Пры ўсёй аб'ектыўнасьці такога раскладу трэба думаць, што і ад нас, людзей паспалітых, нешта залежыць у нашым жыцьці і ў нашай будучыні. Таму давайце пагаворым пра заўтра, пра Беларусь пасьля Лукашэнкі, пра тое, што трэба зрабіць найперш, якія законы прыняць, як па-добраму наладзіць гаспадарку, "што рабіць з калгасамі", што перадусім зьмяніць у адукацыі, у культуры, у спорце і войску, паўсюль. Адно ня будзем зьбівацца на мары, а будзем вельмі канкрэтна казаць пра зусім практычныя рэчы. Рэдакцыя "Нашай Нівы" запрашае ўсіх сваіх чытачоў да абмеркаваньня найважнейшых плянаў на заўтра.

Усе нашыя суседзі, якія вырваліся ці вырываюцца з расейскае арбіты і імкнуцца ў Эўропу, а найперш — да самых сябе, сутыкнуліся з праблемай люстрацыі. І ў гэтай справе для розных краінаў на розных этапах важнымі станавіліся розныя прадметы люстрацыі. Да прыкладу, калі ў былой ГДР чыстка дзяржаўнага апарату адбывалася паводле прыналежнасьці чынавенства да камуністычнае партнамэнклятуры (у нас на мітынгах пра гэта гаварылі ў 91-м), дык у Літве ўжо прадмет люстрацыі выглядаў больш вузка. Былая камуністычная партыя там стала ініцыятарам дэмакратычных пераменаў і незалежнасьці краіны. Яна зьмяніла назву і ператварылася ў адну з рэальных і ўплывовых палітычных сілаў. Таму ў Літве люстрацыі падлягаюць, у выніку нядаўняе дыскусіі, толькі функцыянэры савецкага КГБ. Яны, прынамсі, ня могуць займаць адказных дзяржаўных пасадаў. Гаварылі ў нас і пра гэта, толькі ўжо ў апазыцыйных кулюарах. Але часы зноў мяняюцца, і разам зь імі мяняецца тое грамадзкае зло, якое мусіць быць выдаленае дзеля аздараўленьня.

Ня думаю, што ў нас сёньня было б актуальна скіроўваць люстрацыю супраць савецкае партыйнае намэнклятуры. Тыя камуністы на пэнсіі, дый шкода ад іх, як такіх, не апошняя па часе. Тое самае тычыцца і КГБ, які ў жыцьці краіны, а нават і ў агульным аб'ёме яе насельніцтва займае настолькі істотную долю, што становіцца неадымным. Паспрабуйце заўтра падняць справы ўсіх стукачоў і таптуноў нават за апошнія толькі гады, і вы атрымаеце легіён. Узяць адно чэкісцкае начальства? — аднак іхныя грахі ўласьцівыя ня толькі КГБ, але й МУС, і іншым сілавым і несілавым структурам, якія разганялі мірных дэманстрантаў, душылі свабоду і зьбівалі людзей у пастарунках. Яшчэ адзін легіён... Спатрэбіліся б доўгія гады, каб разграбаць гэтыя тысячы і тысячы справаў.

Гутарка йдзе не пра канкрэтныя злачынствы, якія ўчыненыя людзьмі рэжыму і кара за якія прадугледжваецца Канстытуцыяй. Гутарка ідзе пра ачышчэньне ўсяго грамадзтва, пра зьмену грамадзкага клімату і пра тое, ад чаго сёньня краіна церпіць найбольш.

На маю думку, інструмэнтам люстрацыі ў Беларусі мог бы стаць закон аб адказнасьці за разбурэньне нацыянальнае тоеснасьці беларусаў. Прынамсі сёньня такое разбурэньне найбольш аддаляе нас ад будучыні, ад нармалізацыі. Маю на ўвазе і тых, хто ініцыяваў закрыцьцё беларускіх школ і клясаў, і тых, хто зьвёў амаль на нішто беларускую дзяржаўную выдавецкую дзейнасьць, і тых, хто зьмяніў шыльды на будынках. Маю на ўвазе таксама і зьявы, якія спрычыняюцца да разбурэньня тоеснасьці. Пяць каналаў расейскае тэлевізіі, FM-радыёстанцыі, якія ў Менску ад нейкага часу гавораць ня толькі парасейску, але яшчэ й з маскоўскім пранонсам. Але найперш маю на ўвазе бытавую беларусафобію, якая распаўзаецца па кіраўнічых асяродках, як нафтавая пляма па моры. Згаданы закон стаўся б юрыдычнай базай для спыненьня такой дзейнасьці і такіх праяваў.

Люстрацыйныя мерапрыемствы заўсёды ставалі прадметам шырокага абмеркаваньня і ў выніку прыводзілі да карэкцыі грамадзкага зроку. Паміж іншым у нас, вядома, усе самі беларусы і шануюць свой край і сваю мову. Але ў чым канкрэтна выражаецца гэтае шанаваньне — мусіць акрэсьліць новы закон. Чалавек не павінен сваё, прынамсі, абражаць і ставіцца да яго варожа. Адгэтуль пачнецца выроўніваньне грамадзкіх дачыненьняў. Адгэтуль, насуперак бясконцым саюзным дамовам, прыйдзе найгалоўнае ўсьведамленьне — у якой краіне мы ўсе жывем. А бяз гэтага — без усьведамленьня месца — ня прыйдзе і ўсьведамленьне часу — будучыні, пра якую мы марым.

**Алесь Кебік**

**"НАША НІВА"**

## А. ЛУКАШЭНКУ ТЭРМІНОВА ПАТРЭБНЫЯ ВЫБАРЫ

Каб застацца ва ўладзе, Аляксандру Лукашэнка тэрмінова патрэбна правесьці выбары. Па сьведчаньнях газэты "Сегодня", правядзеньне ў Беларусі датэрміновых выбараў прэзыдэнта ў 2000 годзе, на год раней, цалкам магчымае. У канцы студзеня Лукашэнка можа выступіць з адпаведным паведамленьнем да народа.

У другой дэкадзе студзеня парлямант рэспублікі павінен прыняць новы выбарчы кодэкс, у распрацоўцы якога Лукашэнка актыўна ўдзельнічаў. Ён прапанаваў праўкі аб зьніжэньні мяжы яўкі выбарнікаў на выбары, зьмяненьні працэдуры збора подпісаў за кандыдатаў і ўвядзеньні новай сыстэмы назіраньня за выбарамі. Акрамя таго, у адміністрацыі прэзыдэнта рыхтуецца нейкі плян па "стабілізацыі палітычнай сытуацыі ў краіне і ўмацаваньні падмурку прэзыдэнцкай улады".

Пакуль Лукашэнка яшчэ дастаккова папулярны на Беларусі, яму патрэбна тэрмінова падстрахавацца, лічыць "Сегодня". Да 2001 года эканамічная сытуацыя ў рэспубліцы можа сур'ёзна пагоршыцца. Да таго ж адстаўка Ельцына і неглыбокая "дамова пра намеры" з Расеяй не дазваляюць Лукашэнка праўвацца ў расейскую палітыку.

На сёняшні дзень у Лукашэнка практычна няма канкурэнтаў. Былы прэм'ер Міхаіл Чыгір і экс-міністар Улвдзімір Лявонаў - пад следствам. Кіраўнік Цэнтрвыбаркама Віктар Ганчар і Юры Захаранка, які раней ўзначальваў МУС, зьніклі бязь весткі. А лідэр Беларускага народнага фронта Зянон Пазьняк і старшыня Вярхоўнага савета трынаццатага скліканьня Сямён Шарэцкі - у эміграцыі.

# «Мы хацелі распаўсюдзіць любоў і надзею»

**Гэтыя словы, якія сказаў амерыканец Глен Х'юіт, вартыя таго, каб стаць загалоўкам майго артыкула. Пра яго і ягоную сям'ю я раскажу крыху пазней, а цяпер — усё па парадку.**

Недалёка ад сталіцы ЗША Вашынгтона, у невялічкім цудоўным горадзе Александрыя (у якім пераважна жывуць даволі багатыя людзі, што працуюць у Вашынгтоне), у прыватным доме Карла і Вэндзі Сміт адбыўся прыём у гонар беларускіх дзяцей.

Людзей было шмат: і амерыканскія сем'і, у якіх гасцілі нашы дзеці, і сем'і беларускіх дыпламатаў, і прадстаўнікі царквы, і асноўныя «віноўнікі» ўрачыстасці.

Смачная ежа, шмат садавіны, дзіцячыя ласункі: печыва, цукеркі, тарты, піроржныя...

**Але спачатку слова беларусам.**

— Праграма адпачынку і аздараўлення беларускіх дзяцей з чарнобыльскіх раёнаў у амерыканскіх сем'ях Паўднёвай Вірджыніі існуе ўжо сёмы год, — расказвае саветнік пасольства РБ у Вашынгтоне Леанід Сеннікаў. — А пачалося ўсё ў 1993 годзе з запрашэння 16 дзяцей, а сёлета амерыканцы запрасілі да сябе на 6 тыдняў ужо 80 беларускіх дзяцей.

Цяпер гэтай праграмай, у якой удзельнічаюць ужо 6 розных цэркваў штата Вірджынія, займаецца камітэт «Дзеці Чарнобыля» пад кіраўніцтвам Глена Х'юіта, энтузіязм і энергія якога забяспечылі поспех і пашырэнне праграмы. У пасольства Беларусі з самага пачатку ўсталяваліся вельмі добрыя і прадуктыўныя адносіны з гэтым камітэтам.

Кожны год перад прыездам дзяцей мы праводзім сумесную акцыю — дабрачынны абед беларуска-амерыканскай дружбы з арганізацыяй аўкцыёну, альбо латарэі, выручаныя сродкі ад якіх ідуць на пакрыццё транспартных выдаткаў.

Прадстаўнікі пасольства на першым часе дапамагаюць пераадолець моўны бар'ер, наладзіць узаемаадносіны паміж нашымі дзецьмі і амерыканскімі сем'ямі, у якіх яны жывуць, дапамагаюць амерыканскім сябрам у аэрапорце пры сустрэчах і провадах беларускіх дзяцей.

Я лічу, што праграма будзе пашырацца, бо зацікаўленасць і інтарэс да яе расце, і ўсё больш новых царкоўных прыходаў жадаюць далучыцца да яе.

Што ж гэта за сем'і, якія гасцінна адчынілі не толькі дзверы сваіх дамоў, але і сэрцы для нашых маленькіх беларусаў?

**Сям'я Глена і Мішэль Х'юіт.** Яны ўжо другі раз запрашаюць у свой дом адну і тую ж дзяўчынку з Хойніцкага раёна — Людачку Каліш. Іх дачушка Эмілі з пяшчотай ставіцца да сваёй беларускай сяброўкі і лічыць яе членам сваёй сям'і.

Я запыталася ў дачушкі Х'юітаў Эмілі: «Якая розніца паміж яе амерыканскімі сябрамі і Людачкай?»

Яна адказала: «Мае амерыканскія сябры добрыя, жвавыя, цікавыя, але ж Люда мне бліжэй і радней. Я люблю яе. Я дзялюся з ёй усім, што маю, а яна — са мной».

Пытаюся ў Люды: «Як ты адчуваеш сябе тут?»

— Як дома. Яны такія ласкавыя, добрыя са мной. Мне тут утульна. Добрая ежа, шмат падарункаў. А Эмілі — як родненькая сястрычка.

— А ці хацела б ты заўсёды жыць у Х'юітаў?

— Не. Бо хачу жыць з татам і мамай.

— А калі б тату і маму запрасілі сюды жыць?

Людачка крыху падумала-падумала і адказала: «Не ведаю... Трэба тады разам усім параіцца... Як бацькі, так і я...»

А Людачцы ўсяго... 9 гадоў.

Нарэшце я спыталася ў гаспадара сям'і містэра Глена Х'юіта: «Ці навучыліся яны чаму-небудзь ад гэтай маленькай беларускі?»

Ён адказаў: «Так. Праз яе я зразумеў, як шмат трэба клапаціцца не пра сваё асабістае дзіця. Бо сваё дзіця любіш больш за жыццё, а гэтае дзіця мусіш любіць не менш. Бо мы б хацелі распаўсюдзіць любоў і надзею праз кожнага і да кожнага. На гэтым мы ладзім давер адзін да аднаго, бо бачым агульную дзіцячую аднолькавасць ва ўсім свеце. А ўсе мы перад Богам аднолькавыя як Божыя стварэнні...»

**Другая амерыканская сям'я Куксей.** Маюць чацвёра сваіх дзяцей і ўзялі яшчэ... чацвёра беларускіх!

— Якая мая прафесія? — Самая лепшая ў свеце — маці! — расказвае місіс Эмілі Куксей. — Спачатку я працавала ў выбарчым камітэце прэзідэнта Буша, потым у канцылярыі Белага дома, а калі пайшлі дзеці, дык вырашыла ахвяраваць сябе ім. Мой муж працуе ў Капітоліі. Ён адвакат. Мы дзякуем Богу за тое, што ён паслаў нам ежу і цудоўных сяброў, якія далі нам так шмат цяпла... А галоўнае: мы вучым сваіх дзяцей дзяліцца тым, што мы маем. Павінна вам сказаць, што гэта не вельмі лёгкі ўрок — аддаць іншаму не тое, што табе больш не патрэбна альбо не падабаецца, а менавіта тое, што табе падабаецца і патрэбна табе самому.

**«Патрыярх» праграмы містэр Джо Бейлі:**

— Даўно, 9 гадоў таму, у нашу царкву прыехаў святар Пол Мор і расказаў пра Беларусь, пра тое, як там людзям патрэбна дапамога, асабліва дзецям... Я быў расчулены. Зразумеў, што мушу зрабіць нешта дзеля іх, сабраў сяброў, крыху грошай і разам з пасольствам Беларусі пачалі працаваць... Рабілі і робім усё магчымае, каб беларускія дзеці крыху падмацаваліся фізічна і духоўна. Шчыра кажучы, духоўна яны даволі моцныя... Усе вераць у Бога...

**Юрый Антоненка, перакладчык:**

— Як падабаецца Амерыка? Тут адпачынак дзяцей наладжаны больш цікава, больш магчымасцяў, ды ўсё больш і больш дабаўляецца тых, хто хоча нам дапамагаць. Вось, напрыклад, я надрукаваў у мясцовай газеце артыкул, а ўжо раніцай, у 9 гадзін, пачалі тэлефанаваць людзі і прапанаваць сваю фінансавую дапамогу і пажаданні ўзяць беларускае дзіця на аздараўленне.

І яшчэ такі прыклад. Адна жанчына пайшла на прыём да доктара, ад якога даведалася, што адна амерыканская сям'я ўзяла на аздараўленне чатырох дзетак з Беларусі. Тады гэта жанчына хуценька пабегла ў царкву, нават не параіўшыся з мужам (бо не паспела б!) і ўзяла да сябе ў дом беларускага хлопчыка.

Праўда, хацелася б, каб дзеці мяняліся, бо запрашаюцца паўторна адны і тыя ж. Але так хочуць амерыканцы, бо яны ўжо паспелі прывыкнуць да дзяцей і жадаюць бачыць іх ізноў на наступны год.

**Вацлава ВЯРБОЎСКАЯ,**
**Вашынгтон.**

# Зварот Сакратарыяту ГА ТБМ імя Францішка Скарыны

**(з прычыны апублікавання афіцыйных вынікаў перапісу насельніцтва 1999 г.)**

Афіцыйныя вынікі перапісу насельніцтва 1999 году, распаўсюджаныя ў сродках масавае інфармацыі, засьведчылі, што 82% грамадзянаў Беларусі назвалі мову сваёй нацыянальнасьці роднай, што на 4% вышэй за паказчык перапісу 1989 году. Як вядома, перапіс меў месца ўва ўмовах татальнае русіфікацыі, якая мэтанакіравана праводзіцца ў апошнія 5 гадоў. Сёньня беларуская мова, фактычна, выцесьненая з усіх сфераў ужытку. Афіцыйныя беларускія ўлады, усялякім чынам фармуюць грамадзкую думку, што Беларусь ёсць часткаю Расеі, а яе жыхары – спрадвечна рускія.

Расейская мас-культура і псэўданавукоўцы запаланілі нашую краіну. Ва ўладных структурах – бальшыня непісьменных чыноўнікаў, з дапамогай якіх адбываецца шырокамаштабная акцыя лінгвацыду. Яскравым сведчаннем гэтага зьяўляецца выступ з прычыны ратыфікацыі Саюзнае дамовы дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу РБ Руслана Ігнацішчава, рускага з паходжання: "Наша радасць з нагоды аб'яднання рускіх павінна быць большай, чым радасць немцаў пасля падзення бэрлінскага муру... Калі я сказаў "аб'ядноўваюцца рускія", я не памыліўся. Пра гэта сведчыць гісторыя, у прыватнасці, тэксты Франьцішка Скарыны і надпісы на нямецкіх ды ангійскіх мапах другога тысячагоддзя". Праўда, аўтар гэтае цытаты свядома ўтойвае, што за часамі Францішка Скарыны этнонім "рускі" ня меў дачыненьня да жыхароў Маскоўскага княства, а распаўсюджваўся толькі на славянскія землі Вялікага княства Літоўскага.

Варта заценіць, што ў часе перапісу былі адзначаныя шматлікія парушэнні беларускага заканадаўства. Менавіта дзякуючы намаганням грамадзкіх арганізацыяў і найбольш актыўных грамадзянаў у перапісныя аркушы было ўнесенае канкрэтнае пытанне "Назваць сваю родную мову", а таксама былі выключаныя пытанні эканамічнага характару, што тычацца прыватнага жыцьця грамадзянаў.

Неўзіраючы на вышэйпамянёныя хібы ды шэраг іншых недахопаў, вынікі перасягнулі ўсе нашыя магчымыя спадзяваньні. Каля сямі мільёнаў грамадзянаў назвалі беларускую мову роднай, з іх – 3 млн. 683 тысячы карыстаюцца ёю ў паўсядзённым жыцьці. Як бачым, курс на русіфікацыю, што вядзецца на ўсіх узроўнях уладных структараў, церпіць паразу. Ня маюць посьпеху й шматлікія спробы паглынаньня Беларусі Расейскай Федэрацыяй. Таму ў часе сяткавання Юбілейнага Году Хрысьціянства мы звяртаемся да суайчыннікаў і надалей адстойваць свае права на самавызначэнне ды нацыянальную паўнавартаснасць. Грамадзяне Беларусі ўжо зрабілі свой выбар на карысць мовы карэннае нацыі, далейшая справа – за Дзяржавай. Хопіць ператвараць беларускі народ у манкуртаў! Патрабуем ад Дзяржавы як мага хутчэй забяспечыць беларускай мове рэальны статус дзяржаўнае, дзеля чаго найперш стварыць неабходныя ўмовы для выкарыстання беларускай мовы ўва ўсіх сферах жыцьця на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь у адпаведнасьці з вынікамі апошняга перапісу насельніцтва.

# Калі падводзіць вынікі году

***ў галіне вонкавае палітыкі, то варта прызнаць, што ў гэтай сфэры барацьба паміж беларускай уладаю і апазыцыяй завершылася ў нічыю. Ніводнаму з бакоў не ўдалося атрымаць перакануўчую перамогу, у поўнай ступені не спраўдзіліся спадзяваньні як апазыцыі, так і прэзыдэнцкае каманды.***

У 1999 год Беларусь увайшла з новым міністрам замежных справаў. Доктар юрыдычных навук, палкоўнік запасу КГБ Урал Латыпаў быў прызначаны ў сьнежні 98-га, а праз месяц атрымаў незвычайны для сваіх папярэднікаў на гэтай пасадзе ранг віцэ-прэм'ера.

На першай жа сваёй прэсавай канфэрэнцыі ён паабяцаў разьвязаць "драздоўскую" праблему. І ўжо 17 студзеня ў Беларусь без залішняй пампэзнасьці, без пераможных заяваў вярнуліся амбасадары краінаў ЭўраЗьвязу.

Вяртаньне амбасадараў, якое ўсе назвалі перамогаю Лукашэнкі, было, аднак, той унікальнай падзеяй, якую пераважна станоўча ацанілі як прадстаўнікі ўлады, так і апазыцыі. Матывы апазыцыі тут можна зразумець. Як слушна зазначыў у нефармальнай размове адзін заходні дыпламат – "нават калі мы ўсе зьедзем, вы ж разумееце, што адная амбасада – расейская – зацёды застанецца".

Сур'ёзным ідэялягічным падарункам для Аляксандра Лукашэнкі стаў, як гэта ні парадаксальна, косаўскі крызыс, бамбаваньні NATO югаслаўскіх аб'ектаў. Дзяржаўная прапаганда пачала на поўную моц раскручваць вобраз ворага, "страшнага монстра", як выказаўся Лукашэнка, які падбіраецца да межаў сінявокай Беларусі. Зьявілася цудоўная магчымасьць ідэялягічна тузануць беларускую дэмакратычную празаходнюю апазыцыю.

У сакавіку ў Белградзе адбылася ў пэўным сэнсе гістарычная сустрэча двух эўрапейскіх ізгояў – Лукашэнкі й Мілошавіча. З вуснаў тады яшчэ легітымнага прэзыдэнта прагучала прапанова стварыць славянскі хаўрус трох – Беларусі, Расеі ды Югаславіі.

Няўтаймавальная актыўнасьць Лукашэнкі на гэтым фронце, аднак, не знайшла адэкватнага водгуку ў кіраўніцтве Расеі, і ідэя хаўрусу трох была ціха пахаваная. Сацыялягічныя ж апытаньні паказалі, што беларусы не жадаюць ператвараць свае сымпатыі да сэрбаў у нейкія канкрэтныя, тым больш небясьпечныя крокі.

Не атрымала свайго працягу й пагрозьлівая заява прадстаўніка Рады бясьпекі Беларусі аб магчымасьці вяртаньня ў Беларусь расейскай ядравай зброі.

У 99-м пагоршыліся стасункі афіцыйнае Беларусі зь некаторымі суседзямі. Найбольш кардынальна сапсаваліся дачыненьні з Украінаю. Хаця пачыналася ўсе даволі лагодна для беларускага прэзыдэнта – у красавіку ён ажыцьцявіў адзін са сваіх нешматлікіх замежных візытаў – у Кіеў. Бакам, праўда, не ўдалося дасягнуць дамоўленасьцяў у асноўных спрэчных пытаньнях – дэлімітацыі мяжы й вяртаньня ўкраінскае запазычанасьці.

Аднак з набліжэньнем прэзыдэнцкіх выбараў ва Ўкраіне Аляксандар Лукашэнка ва ўласьцівым яму ня вельмі далікатным стылі пачаў камэнтаваць шанцы прэзыдэнта Кучмы на перавыбраньне й заяўляць пра неабходнасьць для Ўкраіны ўступіць у хаўрус Беларусі й Расеі.

У адказ Лукашэнка атрымаў моцны ўдар па гонару й самалюбству, калі ў верасьні ня быў запрошаны на канфэрэнцыю кіраўнікоў дзяржаваў Балта-Чарнаморскага рэгіёну ў Ялце. Цяпер дачыненьні Беларусі ды Ўкраіны перабываюць у лепшым выпадку ў стадыі "халоднага міру".

Са стадыі "халоднага міру" ня выйшлі й дачыненьні з Польшчаю і Летувою. На стасункі зь Летувою паўплывала эміграцыя ў Вільню старшыні Вярхоўнага Савету Сямёна Шарэцкага. І хаця кіраўнікі абедзьвюх краінаў, здаецца, з апошніх сілаў імкнуцца не рабіць рэзкіх крокаў, канфлікт гатовы разгарэцца ў любы момант. Гэта падцьвердзіў і саміт у Стамбуле, калі дастаткова памяркоўная ўзгадка прэзыдэнтам Летувы сытуацыі ў Беларусі выклікала рэзкую і нэрвовую водпаведзь Лукашэнкі.

Безумоўна, ключавым пунктам году стала 21 ліпеня, заканчэньне легітымных прэзыдэнцкіх паўнамоцтваў Аляксандра Лукашэнкі. Многія занадта аптымістычна разьлічвалі на вельмі жорсткую рэакцыю Захаду – цяпер зразумела, што гэтыя спадзяваньні справядліва было б назваць "фантазіямі".

Так, заходнія дзяржавы канстатавалі, што Лукашэнка страціў сваю легітымнасьць 20 ліпеня. Але сутнасьць іхных заяваў зводзілася да закліку неадкладна распачаць перамовы паміж уладаю ды апазыцыяй.

Ні пра якое ўвядзеньне палітычных ці эканамічных санкцыяў размова не заходзіла. Нават Злучаныя Штаты Амэрыкі, якія найбольш радыкальна ставяцца да йснуючага ў Беларусі рэжыму, падкрэсьлілі, што будуць мець справу зь дзейным урадам.

Менавіта пасьля ліпеня зактывізаваліся спробы АБСЭ наладзіць дыялёг паміж уладаю ды апазыцыяй – спробы, якія дасюль не прывялі да якіх-небудзь вынікаў.

Прынамсі, заканчэньне легітымных паўнамоцтваў Лукашэнкі не перашкодзіла яму падпісаць дамову з Расеяй аб стварэньні адзінае беларуска-расейскае дзяржавы ды зьездзіць у Стамбул на саміт кіраўнікоў краінаў АБСЭ.

Стамбульская сустрэча 18-19 лістапада стала як бы люстэркам супярэчнага й няўпэўненага стаўленьня сусьветнае супольнасьці да сытуацыі ў Беларусі. З аднаго боку, на саміт былі запрошаныя прадстаўнікі асноўных апазыцыйных партыяў, зь іншага – беларускае пытаньне было ўзгаданае ў выніковай рэзалюцыі толькі на 22 мейсцы і ў даволі асьцярожнай форме.

Саміт своеасаблівым чынам падвёў вонкапалітычныя вынікі 1999 году – апазыцыі не ўдалося дамагчыся поўнай міжнароднай ізаляцыі існуючага рэжыму, а прэзыдэнцкі бок, негледзячы на некаторыя тактычныя посьпехі, у цэлым не зьмяніў нэгатыўнае стаўленьне да сябе міжнароднае супольнасьці.

**Віталь Цыганкоў, Менск**

Р. Завістовіч (ЗША)

# ЗЛОЎЖЫВАНЬНЕ СКАРОТАМІ

**Аўтары тэкстаў газэтных артыкулаў, часопісаў і нават кніжак на розных мовах вельмі часта ўжываюць скароты такія, як "і г. д." (і гэтак далей) альбо "і інш." (і іншыя). Гэтымі скаротамі аўтары карыстаюцца пры пераліку рэчаў альбо асобаў, каб сказаць, што пералік можна працягваць. Здавалася-б, як кажуць цяпер у Беларусі, усё "нармальна". Аднак, усё гэта так, ды не зусім. Чытаючы беларускія тэксты, ды ня толькі тыя, што выдаюцца ў Беларусі, робіцца ўражаньне, што часам аўтары злоўжываюць гэтымі скаротамі. Справа ў тым, што словы "і гэтак далей" часта ня толькі не дапаўняюць ужо сказанага, але не нясуць у сабе ніякае інфармацыі. Больш таго, я адважуся сказаць, што часам скароты ўжываюцца каб схаваць няведаньне аўтарамі дадзенае тэмы альбо пераліку. Здаецца, каб гледзячы на тэкст, чытач мог прымусіць аўтара каб той замест "і г. д." назваў наступнае канкрэтнае слова ў сваім пераліку, дык, ён хутчэй, мабыць, зьбянтэжыў-бы аўтара, чым атрымаў ад яго патрэбны адказ.**

**Яшчэ горшым скаротам ёсьць, "і інш." У гэтым выпадку ўся ідэя ўжытку скароту часам мае вельмі мала сэнсу. Ізноў складаецца вось такое сумнае ўражаньне, што пералічваючы, скажам, сяброў нейкай групы альбо арганізацыі, аўтар, праз няпэўныя веды свае тэмы, міжволна катэгаруе гэтых сяброў на тых, якія заслугоўваюць быць згаданымі ў пераліку і на тых, якія не. Атрымоўваецца абразьлівае стаўленьне да тых, якія трапілі ў "іншыя".**

**Асабліва недапушчальным ёсьць ужытак скаротаў у артыкулах даведнікаў, тлумачальных слоўнікаў, альбо энцыкляпэдыяў. Для прыкладу ў "Энцыкляпэдыі Гісторыі Беларусі" (том 1, 1993, ст. 384), выдадзенай у Менску, надрукаваны артыкул А. М. Сідарэвіча "Беларуская Народная Рэспубліка", адзін з галоўных артыкулаў пра беларускую гісторыю. Хацеўшы аднавіць у памяці час, ад якога Рада Ўсебеларускага Зьезду (Кангрэсу) пачала называцца Радаю БНР, і даведацца пра поўны склад Рады, я зазірнуў у Энцыкляпэдыю і, дайшоўшы да патрэбнага месца, чытаю (цытата даецца захоўваючы арыгінальны правапіс тэксту): "18. 3. 1918 Рада Усебел. зьезда была пертворана ў Раду Беларускай Народнай Рэспублікі, 6 сяброў ВБР (Віленскай Беларускай Рады) (В. Ю. Ластоўскі, І. І. і А. І. Луцкевічы і інш.) былі кааптаваны ў склад Рады БНР, што ўзмацавала незалежніцкую плынь у ёй".**

Прачытаўшы няпоўны пералік, я так і не зразумеў, што дае чытачу скарот "і інш." Чаму былі выкінутыя з пераліку яшчэ трох сяброў БВР? Не хапіла места, ці што? Дык гэта-ж энцыклапэдыя, куды можна яшчэ падацца? Няўжо тыя сябры не нагэтульки важнецкія, што гісторыя, на думку аўтара, бяз іх не пабяднее, а энцыкляпэдыя не панясе страты.

Аўтар артыкулу, напісаўшы амаль 7 старонак кніжнага тэксту пра Беларускую Народную Рэспубліку, так, дарэчы, нідзе і не "адважыўся" поўнасьцю пералічыць усіх сяброў тадышняе Рады. Мала таго, увесь доўгі артыкул так і стракаціцца скаротамі "і г. д." ды "і інш.", якія звычайнаму чытачу нічога не тлумачаць. Гэта што, ігнараваньне зацікаўленасьці чытача, злоўжываньне скаротамі, ці, можа, няведаньне тэмы?

Неабходнымі складавымі часткамі добрага тэксту заўсёды была лёгкасьць чытаньня, якая дасягаецца пабудовай кароткіх сказаў і зразумелым выказваньнем думак. Непатрэбны ўжытак скаротаў ніякае палёгкі не прыносіць, а, наадварот, ён ускладняе тэкст, робіць яго цяжкачытэльным і, самае галоўнае, пазбаўляе чытача патрэбнае для яго інфармацыі.

Спадзяемся, што нашыя аўтары, як тут на Захадзе, гэтак і ў Беларусі, будуць больш ашчадна карыстацца скаротамі, як гэта, напрыклад, практыкуецца ў ангельскіх, нямецкіх і польскіх тэкстах.

# Наша памкненне да свабоды не спыніць

**Гэта было 18** кастрычніка, на другі дзень пасля акцыі "Марш Свабоды". Ехаў я ў гарадскім аўтобусе, побач са мной размаўлялі пажылыя мужчыны і жанчыны. Размова ішла пра дэманстрацыю.

-- Чаго ж яны хацелі? -- пытаўся мужчына.

-- Не знаю, -- адказала жанчына.

Пачуў гэта, і мне неяк няёмка стала за сваіх землякоў.

"Чаго яны хацелі?" Гэтае пытанне паказвае, што мужчына аддзяляе сябе ад гэтых высокародных людзей, якія не пабаяліся выйсці на вуліцу і адкрыта заявіць, што не згодны з палітыкай, якая пазбаўляе беларускі народ свабоды і незалежнасці -- запаветнай мары кожнага народа. Не згодны з палітыкай, што вядзе да зьбяднення народа, бесперспектыўнасці.

"Чаго яны хацелі?" Значыць, чалавек не разумее, што гэтыя высакародныя людзі і за яго таксама падстаўляюць свае галовы пад міліцэйскія дубінкі, за яго таксама цярпелі здзекі ад "ахоўнікаў парадку" ў час зачыстак тэрыторыі (як у Чэчні).

"Чаго яны хацелі?" Значыць, не разумее, што выйшла на вуліцу лепшая частка беларускага народа, каб заявіць, што мы супраць таго, каб у Беларусі кіраваў нелегітымны прэзідэнт і функцыянаваў нелегітымны -- парламент. Каб заявіць, што іх пастановы, дамоўленасці пасля 20 ліпеня не маюць юрыдычнай сілы.

Акцыя скончылася, на вялікі жаль, пабоішчам. Чаму?

Што павінны былі зрабіць улады, калі б паважалі народ, а праваахоўныя органы сапраўды ахоўвалі ягоныя правы? Адказ вельмі просты: павінны былі забяспечыць свабодны праход маніфестантаў (згодна Канстытуцыі) па галоўным праспекце сталіцы. Гэтае шэсце заняло б не болей гадзіны. Дарэчы, калі па гэтым праспекце едзе Лукашэнка ці ідзе якая рэпетыцыя парада войск або сам парад, то рух перакрываецца надоўга. І ніхто за гэта не просіць прабачэння ў грамадзян. Калі б удзельнікі акцыі 17 кастрычніка маглі прайсці без перашкод да плошчы Незалежнасці, то потым, упэўнены, усе спакойна разышліся б.

Такое адбылося б, калі б у Беларусі была сапраўдная дэмакратыя. А паколькі ў нас паранейшаму кіруе былая камуністычная партнаменклатура, якая, як агню, баіцца народа, то... адбылося тое, што адбылося.

"Ніззя!" -- сказаў начальнік горада Ярмошын. Мітынгуйце дзе-небудзь на ўскраіне, дзе вас ніхто не ўбачыць. Але народ, гаспадар у сваёй краіне, распачаў шэсце па праспекце Скарыны. У суправаджэнні міліцэйскіх машын. А калі пасля мітынгу на плошчы Бангалор яго ўдзельнікі вырашылі пранесці вялізны нацыянальны сьцяг і сьцяг Еўрапейскага Саюза да плошчы Незалежнасці, на іх шляху стаў заслон "рыцараў" у касках, бронежылетах, з дубінкамі і шчытамі ў руках. Дарэчы, гэта народ іх так экіпіраваў, разлічваючы, што яны будуць змагацца са злачынцамі. А яны сталі супраць сваіх карміцельцаў.

Кожны з цвярозым розумам ведае, што калі на шляху транспарту паставіць перашкоду, то адбудзецца аварыя. А калі на шляху народа паставіць варожы заслон?

Згадваю: у свой час у суседняй Польшчы мелася адбыцца тое ж самае -- мэр Варшавы меў намер сказаць "ніззя" свайму народу. Але знайшліся ў вышэйшых эшалонах улады разумныя людзі, якія не дазволілі рабіць такое антыпраўнае, антынароднае, антыканстытуцыйнае дзеянне. Там шматлюдная дэманстрацыя народа прайшла спакойна. У нас жа ва ўладных структурах такіх разважных, выходзіць, не знайшлося...

Дзе былі гэтыя дужыя хлопцы ў форме, калі трэба было бараніць падлеткаў ад гібелі ў пераходзе метро на Нямізе? Сядзелі ў аўтобусах! Тады кіраўніцтва бездапаможна разводзіла рукамі: "Мы не маглі такое прадугледзець". 17 ж кастрычніка, калі баяліся, што народ пройдзе блізка ад высокай рэзідэнцыі, усё прадугледзелі! Як непрыступная кітайская сцяна, сталі ўпоперак.

...Адразу ж пасля Маршу пачалася шалёная ідэалагічная кампанія ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі. Асабліва вылучылася ў гэтай кампаніі "кісельнае" тэлебачанне. У праграмах "Рэзананс", "Панарама" і "Как это было" пачалося грандыёзнае шоу. "Чэсныя" галасы сталі сьцвярджаць, што гэта, маўляў, заходнія спецслужбы падбухторвалі да выступлення беларусаў, бо самім ім, маўляў, з якой прычыны пратэставаць? У Беларусі ж людзі жывуць з кожным днём усё лепш і лепш: у цяпле, накормленыя, абутыя, адзетыя, кожны атрымлівае добрую зарплату, кожны грамадзянін, нават кожнае немаўлятка -- ужо мільянер. А прадуктаў харчавання проста дзяваць няма куды -- мы нават можам дапамагчы любаму сэрцу Лукашэнкі антынароднаму рэжыму Мілошавіча...

А таму без "праклятых долараў Захаду" 17 кастрычніка не абышлося. Нават прыводзілася велізарная сума, якую, маўляў, пераслаў Захад у Беларусь для арганізацыі акцыі "Марш Свабоды". Толькі чамусьці не ўказваюць нумары рахункаў і банкі, праз якія былі пераведзены апазіцыі гэтыя грошы. Можа, праз "Торгэкспо" ці "Фонд Эсамбаева"? На дурняў разлічаны і сцвярджэнні, што ўдзельнікам дэманстрацыі плацілі ў беларускіх "зайцах". Гэта -- трызненне дэбілаў. Даведзены кіраўніцтвам дзяржавы да адчаю беларускі народ сам, добраахвотна і бясплатна пайшоў на дэманстрацыю пратэсту.

Дэбільнасцю патыхае і заява па беларускім тэлебачанні, быццам ёсць нейкая пагроза для Беларусі з Захаду. І гэта ў той час, калі на тэрыторыі нашай краіны размешчаны расійскія войскі, калі расійскія мытні на заходніх граніцах Беларусі! Адкуль жа пагроза?

Водгук Дзяржлумы РФ у асобе спікера Селязнёва на падзеі ў Беларусі быў прадказальны: не магла ж чырвоная Дума не падтрымаць свайго васала!

Але памкненне беларускага народа да свабоды і незалежнасці падтрымліваюць чэсныя людзі многіх краін, і яго нікому не спыніць.

Яўген ЛІТВІН, пенсіянер.

# НАМ ПІШУЦЬ...

Паважаны сп. Мікола!

Зьвяртаюся з просьбай надрукаваць мой ліст у "Беларускім Дайджэсьце" аб працы Фонду "Ethnic Voice of America" з Клíўленду. Ethnic Voice of America — гуманітарны Фонд. Прэзыдэнт фонду — спадарыня Ірэна Каляда-Сьмірнова. Адным з напрамкаў дзейнасьці Фонду зьяўляецца дапамога ў аздараўленьні і адпачынку дзяцей з Беларусі ў Славеніі. Добрыя адносіны паміж Ethnic Voice of America і Чырвоным Крыжам Славеніі дазваляюць вось ужо на працягу чатырох гадоў прывозіць дзяцей на аздараўленьне ў Славенію. Пачыналі працу ў 1996 годзе з усяго чатырох дзетак з Хойнікаў. Кожны год павялічвалі колькасьць дзяцей з Беларусі, а ў 1998 годзе ўжо было іх 70.

Спд. Ірэна неаднаразова бывала ў Славеніі з мэтай выявіць у якіх умовах жывуць і адпачываюць дзеці, якое харчаваньне, як праводзяць час. Тут у дзіцячым цэнтры Чырвонага Крыжа Славеніі, на беразе Адрыятычнага мора сапраўды цудоўна. Цёплае мора, адкрыты і закрыты басэйны з марской вадой, цудоўнае наваколье, спартыўныя пляцоўкі. Узімку сьнегу не бывае, адным словам, усё гэта бязумоўна падабаецца дзецям. Таму было вырашана прывозіць дзяцей на аздараўленьне ня толькі летам, а на працягу ўсяго года. За 1999 год з Беларусі на аздараўленьне прыязджала 8 груп, а гэта амаль што 400 дзяцей. У асноўным былі гэта дзеці з хранічнымі прастуднымі захворваньнямі, аслаблены імунны сыстэмай, павялічанай шчытападобнай залозай. Кожная група знаходзілася ў Славеніі па тры тыдні. Большасьць дзяцей з сем'яў, у якіх няма бацькі або маці, былі дзеці сіроты. Дзеці былі ня толькі з раёнаў блізкіх да Чарнобыля, але з усіх куткоў Беларусі. Падчас адпачынку дзяцям арганізавалі экскурсіі па Славеніі, яны атрымоўвалі падарункі. З свайго боку беларускія дзеці размаўляючы з аднагодкамі-славенцамі шмат расказваюць пра Беларусь, сьпяваюць беларускія песьні, робяць тэатралізаваныя пастаноўкі. Добрае харчаваньне, добры догляд, напэўна выдатна сказваюцца на здароўі дзяцей. Яны адязджалі дамоў адпачыўшымі і значна ў лепшай кандыцыі.

Шмат бацькоў пішуць, выказваюць вялікую падзяку Ethnic Voice of America за дапамогу іхнім дзецям, пішуць пра лепшае іх здароўе.

Усе грашовыя расходы на дарогу, на ўтрыманьне дзяцей у Славеніі аплачвае Фонд, а гэта каля тысячы даляраў на асобу. Акрамя таго таксама на грашовую дапамогу Фонду ў гэтым годзе дзеці з Беларусі былі на адпачынку і аздараўленьні ў Чэхіі, Польшчы, Эстоніі, Турцыі. Ужо распрацавана праграма па аздараўленьні дзяцей з Беларусі на 2000 год. Ёсьць надзея, што яшчэ больш хлопчыкаў і дзяўчынак з дапамогай Ethnic Voice of America з Клíўленду папрaвяць сваё здароўе ў Замежжы.

Ж. К. (Славенія)

## Сьцяг, які адцягвае ўвагу

Пасьля публікацыі ў «Нашай Ніве» нататкі «Шарэцкі зьняў бел-чырвона-белы сьцяг» Старшыня Вярхоўнага Савету РБ даслаў факс з тэкстам сваёй заявы, якую мы прыводзім тут цалкам:

«У апошні час у друку зьявіліся артыкулы, у якіх робіцца спроба абвінаваціць мяне ў непавазе да беларускай нацыянальнай сымболікі. У гэтай сувязі хачу заявіць наступнае:

Па-першае, свае адносіны і павагу да нацыянальнага сьцяга і герба я ўжо выказваў у многіх сваіх выступах і друкаваных артыкулах, а таксама ў кнізе «Наш беларускі дом». Больш таго, у артыкуле «Беларусам ёсьць чым ганарыцца» («Грамадзянская альтэрнатыва» 1999, №5) сказана, што толькі невуцтва і прымітывізм, імкненьне новых уладаў разбурыць і зьнішчыць усё былое зьявіліся сапраўднай прычынай таго, што... нацыянальныя сымбалі беларускага народа былі заменены на незразумелыя, кімсьці прыдуманыя і герб, і сьцяг.

Па-другое, 3 сьнежня 1999 году прэс-канфэрэнцыя, аб якой ідзе гаворка ў артыкулах, у якіх я абвінавачваюся ў непавазе да беларускай нацыянальнай сымболікі, праводзілася Генэральным пракурорам Рэспублікі Беларусь Рыгорам Пракаповічам. На названай канфэрэнцыі Генэральны пракурор паведаміў, што ў горадзе Менску 1 сьнежня 1999 г. ім была прынятая пастанова аб узбуджэньні крымінальнай справы па факту захопу і ўтрыманьня ў Рэспубліцы Беларусь дзяржаўнай улады неканстытуцыйным шляхам. Весьці справу даручана старшаму сьледчаму па асабліва важных справах Генэральнай пракуратуры, якога прызначыў Генэральны пракурор. І для таго, каб не адцягваць увагі ад юрыдычнай сутнасьці дадзенай справы і не пераводзіць яе ў палітычнае рэчышча, Генэральны пракурор вырашыў праводзіць прэс-канфэрэнцыю ў зале без прысутнасьці ў ёй якой бы ні было сымболікі.

Да сказанага магу прыбавіць, што Рыгора Пракаповіча знаю асабіста і добра ведаю яго павагу як да беларускай нацыянальнай сымболікі, так і да беларускай мовы. Ня ведаю, чым кіраваліся аўтары артыкулаў, якія крымінальную справу спрабавалі перавесьці ў палітычнае рэчышча».

## “Боль людзкі”—

*так называецца кніга, якая выдадзеная нядаўна ў Менску групаю незалежных гісторыкаў. Гэта зборнік сьведчаньняў розных людзей, якіх аб'ядноўвае агульны лёс ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў.*

Выдадзены зборнік – гэта першы, так бы мовіць, друкаваны вынік працы групы дасьледнікаў, якіх зьвяло разам жаданьне данесьці да сучасьнікаў праўду пра вялікую трагедыю народу, асуджанага бесчалавечным бальшавіцкім рэжымам на боль, пакуты й сьмерць. Праўду, якую распавядаюць самі ахвяры, якім удалося – пасьля жудасных катаваньняў – застацца жывымі. Таму гэта незвычайныя ўспаміны. Яны напісаныя, як сказана ў прадмове, “людзкой крывёю і сьлязьмі”, напісаныя дзеля таго, каб “нішто падобнае больш не паўтарылася”.

Пакутнікаў, якія прайшлі праз рэпрэсіўную машыну бальшавізму, не так шмат ацалела. Яшчэ меней тых, хто й да сёньня застаўся жывы. У большасьці – гэта ўжо вельмі хворыя людзі, якія жывуць ціха й непрыкметна. Таму перад навукоўцамі стаіць даволі складаная задача росшуку іх. Гаворыць кіраўнік калектыву незалежных гісторыкаў Ніна Стужынская:

**(Стужынская:)** “Па-першае, склаўся арганізацыйны камітэт пошукавай працы. Пераважна гэта навукоўцы і моладзь. Мы падзялілі Беларусь на рэгіёны. Папярэдне мы правялі разьведвальную, скажам так, працу. Дзе жывуць людзі, якія яшчэ жывыя, якія прайшлі лягеры, праз сталінскія засьценкі, і захаваліся жывымі. Каб яны мелі магчымасьць падзяліцца зьвесткамі аб сваіх пакутах з нашай моладзьдзю. На працягу мінулага году мы аб'язжалі Беларусь, зьбіралі ўспаміны, запісвалі іх, апрацоўвалі, аналізавалі, рыхтавалі да друку і вось выдалі”.

У выдадзены зборнік увайшла толькі маленькая частка запісаных успамінаў – боль усяго трыццаці чалавек. У архіве ж навукоўцаў больш за тысячу такіх трагічных споведзяў, пакінуць якія не вядомымі сучасьнікам навукоўцы лічаць амаральным. Ніна Стужынская гаворыць далей:

**(Стужынская:)** “Я думаю, што мы працягнем працу, таму што ўспамінаў мы назьбіралі больш чым тысячу. Успаміны вельмі розныя. Людзі рознага ўзросту, рознага стану здароўя. Я думаю, што яшчэ наперадзе вялікая праца апрацоўкі сабранага матэрыялу, і яго ўдакладненьня”.

Праца над гэтай складанай тэмаю ўносіла свае карэктывы ў навуковыя падыходы да яе. Мянялі мэтады гісторыкаў нечаканыя сюжэты й дэталі ўспамінаў. Вось што, да прыкладу, уразіла Ніну Стужынскую:

**(Стужынская:)** “Нягледзячы на тое, што гэта быў лягер, жанчыны і мужчыны кахалі адно аднаго, складаліся нейкія шлюбы. Нягледзячы на тое, што бацьку народжаных дзяцей там, у сталінскіх засьценках, пагражала павелічэньне тэрміну на пяць год. (Калі адміністрацыя лягеру даведвалася, хто бацька дзіцяці)”.

На падобнага кшталту расповяды навукоўцы спачатку не зьвярталі ўвагі, і кіраўнік калектыву Ніна Стужынская лічыць гэта сур'ёзным недахопам выдадзенага зборніка. Наступныя кнігі, якія мяркуецца выдаць у рамках праекту “Гісторыя, якой няма ў падручніках”, будуць больш распавядаць пра сацыяльныя ды псыхаэмацыйныя дэталі жыцьця людзей пад малохам бальшавіцкіх рэпрэсіяў.

**Валянціна Аксак, Менск**



# Усе хваробы ад нерваў. Хочаш змагацца са стрэсам — палюбі самога сябе...

«Звязда»

**Бяссонніца, пастаянная стомленасць, павышаная раздражняльнасць, беспадстаўная агрэсіўнасць, пагаршэнне памяці, немагчымасць сканцэнтравацца — усе гэтыя сімптомы добра знаёмыя большасці нашых чытачоў, бо ўсе мы хаця б аднойчы ў жыцці траплялі ў стрэсавыя сітуацыі. Але што маюць на ўвазе пад стрэсам урачы, ці магчыма ўвогуле пазбегнуць стрэсаў і як можна зменшыць іх наступствы — аб гэтым наша сённяшняя гаворка...**

### ШТО ТАКОЕ СТРЭС?

Стрэс — своеасаблівая фізіялагічная, псіхалагічная і эмацыянальная рэакцыя чалавека на знешнія фактары, прычым штуршком для яго могуць стаць як негатыўныя, так і пазітыўныя фактары і падзеі. Так, справакаваць стрэс можа нават уступленне чалавека ў шлюб ці нараджэнне ў сям'і дзіцяці. Але ўсё ж у найбольшай ступені мы з вамі церпім ад сацыяльнай неўладкаванасці нашага жыцця: ад фінансавых і жыллёвых праблем, пагрозы страты працы, беспрацоўя, прыродных катаклізмаў, неабходнасці праводзіць працяглы час у чэргах, штодзённай цісканіны ў грамадскім транспарце, ад нізкай якасці медыцынскіх паслуг і г. д.

Навукоўцамі была створана шкала, якая ўказвае на ступень сацыяльнай адаптацыі і нашай рэакцыі на розныя жыццёвыя падзеі. Усяго іх зафіксавана 43 і кожнае з іх ацэньваецца ў адзінках. Напрыклад, смерць мужа ці жонкі ацэньваецца ў 100 адзінак. Калі чалавек, згодна з гэтай шкалой, набірае на працягу года больш за 200 адзінак, то рызыка атрымаць трывожна-дэпрэсіўныя ці псіхасаматычныя расстройствы павялічваецца ў яго шматразова. Гэта тлумачыцца тым, што стрэсары (акалічнасці, якія ўплываюць на чалавека) негатыўнага характару заўсёды суміруюцца, у выніку чаго звычайны канфлікт у транспарце або чарзе можа стаць у шэрагу падзей апошняй кропляй і прывесці да эмацыянальнага выбуху.

Для першай стадыі стрэсу характэрная трывога. На другой стадыі, калі стрэсар працягвае дзейнічаць на нас, мы пачынаем выпрацоўваць антыстрэсавыя сістэмы аховы арганізма або выкарыстоўваць сістэмы аховы, якія ўжо маем: гэта можа быць наш жыццёвы вопыт, атрыманыя раней веды і г.д., адным словам, мы робім канкрэтныя крокі, каб зменшыць адчуваемы дыскамфорт. Запас «антыстрэсавай трываласці» ў кожнага арганізма свой асабісты. Найбольш падвергнуты стрэсам сацыяльна неўладкаваныя людзі: адзінокія маладыя жанчыны, старыя, нацыянальныя меншасці, эмігранты і, канешне ж, людзі з нізкай самаацэнкай. Не стануць барацьбітамі ў жыцці і дзеці, выхаваныя бацькамі ў «цяплічных умовах». І наадварот, маладыя людзі, якім давялося сутыкнуцца з усімі рэаліямі нашага жыцця яшчэ ў пару юнацтва і якія бачылі, як цяжка прыходзілася іх бацькам, упэўнена ідуць па жыцці і ў стрэсавых сітуацыях хутка мабілізуюцца.

Між тым, схільнасць да стрэсаў напрамую залежыць і ад нашай з вамі работы. У шкале стрэсаў, складзенай псіхолагамі для больш чым паўтары сотні прафесій, першае месца займаюць шахцёры — 8,3 бала па 10-бальнай шкале, далей ідуць ахоўнікі правапарадку — 7,7 бала. 7,5 бала набралі журналісты і будаўнікі, 7,3 бала — стаматолагі, 7,2 — акцёры, 7 — палітычныя дзеячы, 6,8 — урачы, 5,4 — вадзіцелі грамадскага транспарту, 4,8 бала — дыпламаты. Узрастае схільнасць да стрэсаў і пры чаргаванні ў чалавека дзённых і начных рытмаў работы. А найбольш спакойна жывецца сёння супрацоўнікам бібліятэк, выставак і музеяў, якія маюць па шкале стрэсаў усяго 2,8 бала. Шкала стрэсаў вызначалася спецыялістамі па частаце ў прадстаўнікоў розных прафесійных сфер сардэчных прыступаў, дарожных здарэнняў, скасаванняў шлюбаў, схільнасці да алкагалізму і некаторых іншых фактараў.

### ДЭПРЭСІЯ — ГАЛОЎНАЯ СПАДАРОЖНІЦА СТРЭСУ

У тых выпадках, калі стрэсар аказваецца надзвычай цяжкім і закранае ўсё наша жыццё, ахоўныя механізмы арганізма могуць нам адмовіць. Чалавека ахоплівае пачуццё бездапаможнасці і безнадзейнасці. У дэпрэсіі і стрэсу існуе шмат агульных сімптомаў: гэта парушэнні сну, раздражняльнасць, унутраная трывога, прадчуванне непрыемных падзей, пачашчанае сэрцабіццё, павышаная патлівасць, сухасць у роце ці наадварот — павышанае слінааддзяленне, заміранне сэрца, непрыемныя адчуванні ў жываце. Нездарма некаторыя вучоныя лічаць, што дэпрэсія і стрэс — гэта два полюсы аднаго і таго ж эмацыянальнага стану, раздзеленыя толькі адрэзкам часу.

Сёння, паводле інфармацыі Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, ад дэпрэсіі пакутуюць ужо ад 3 да 6 працэнтаў насельніцтва зямнога шара. Гэта вельмі высокая лічба. Напрыклад, на цукровы дыябет хварэюць ад 2 да 4 працэнтаў зямлян, часцей жа сустракаюцца хіба толькі сардэчна-сасудзістыя захворванні. Затое па медыцынскую дапамогу звяртаецца толькі кожная пятая ахвяра дэпрэсіі, астатнія ж нават не падазраюць аб сваёй хваробе.

Справа ў тым, што пры дэпрэсіях большасць пацыентаў звяртаюцца да тэрапеўтаў ці гінеколагаў са скаргамі на болі ў сэрцы, стамляльнасць, парушэнні менструальнага цыкла, гінекалагічны дыскамфорт, і ўрачы пачынаюць змагацца з вынікам, а не з прычынай хваробы. Агульнавядома, што ў нашым грамадстве існуе штучна створаны бар'ер паміж людзьмі і псіхатэрапеўтычнай службай: людзі проста баяцца звяртацца да спецыялістаў у гэтай галіне, каб не атрымаць на ўсё жыццё ярлык «псіха». Таму заспакоім усіх, хто знайшоў у сабе ўсе вышэйпералічаныя сімптомы: шпіталізуюцца ў псіхіятрычныя стацыянары ў сувязі з дэпрэсіяй толькі 2 працэнты ўсіх захварэўшых. А ў прынцыпе, гэты стан даволі паспяхова лечыцца амбулаторна.

Чалавек у стрэсавай сітуацыі здольны здзяйсняць учынкі, якія немагчыма паўтарыць у звычайных умовах: падымаць і перастаўляць непад'ёмныя рэчы, напрыклад, аўтамабіль, скакаць са смяротнай вышыні, рухацца з неверагоднай скорасцю. Усім вядома, што ў гады Вялікай Айчыннай вайны нашы салдаты наводзілі масты, стоячы ў ледзяной вадзе пад бамбёжкамі не адну гадзіну, і нават не прастуджаліся. Але пераацэньваць сілы ўласнага арганізма не варта: усім не шкодзіць ведаць, што бясследна для арганізма моцны стрэс не праходзіць ніколі. Вось чым тлумачыцца хваля алкагалізму, якая ахапіла тых франтавікоў, якім пашчасціла вярнуцца дадому.

### СТРЭС — РУХАВІК ПРАГРЭСУ?

Улічваючы, што ўсім нам выпала незайздросная доля жыць у эпоху перамен, сацыяльных і прыродных катаклізмаў, не будзе перабольшаннем сцвярджэнне, што стрэс перажывае зараз уся беларуская нацыя. І адным з сур'ёзнейшых стрэсараў для нас з'яўляецца зараз Чарнобыль.

Цікава, што па-рознаму на стрэсавыя сітуацыі могуць рэагаваць не толькі асобныя людзі, але нават і цэлыя нацыі. Асабліва жудасна бывае, калі нацыі ўпадаюць у масавы псіхоз: фашызм можна растлумачыць менавіта масавым псіхозам. І ў той жа час нават негатыўны вопыт чалавецтва цяжка пераацаніць. Цудоўным прыкладам можа стаць Швейцарыя, грамадзяне якой падчас вайны ў Персідскім заліве кінуліся скупляць у магазінах на «чорны дзень» алей і крупы. Калі для беларусаў такая сітуацыя, можна сказаць, даволі тыповая (у чаканні павышэння цэн мы выстройваемся ў чэргі за гарэлкай, маслам, каўбасой, крупамі), то для багатай і стабільнай Швейцарыі, якая, да таго ж, не ваявала ўжо 300 гадоў, пагадзіцеся, гэта неяк не характэрна. Выходзіць, швейцарцы вынеслі сумны ўрок з другой сусветнай вайны, калі ім прыйшлося галадаць з-за таго, што сюды былі перапынены пастаўкі харчавання з суседніх краін, уцягнутых у ваенныя дзеянні.

Аўтару гэтых радкоў таксама давялося стаць сведкай даволі цікавай псіхалагічнай сітуацыі: падчас жнівеньскага эканамічнага крызісу мінулага года мы ў саставе беларуска-расійскай турыстычнай групы знаходзіліся за мяжой. «Чорныя весткі» з радзімы літаральна выбілі расіян з каляіны: яны штодня званілі родным, страцілі цікавасць да экскурсій, цвёрда вырашылі «не развітвацца» з валютай, прывезенай з сабой на адпачынак і, напэўна, калі б з'явілася такая магчымасць, то накіраваліся б дамоў. І гэта пры тым, што вандравалі па Еўропе далёка не самыя бедныя расіяне. Настрой жа беларусаў лепш за ўсё перадасць адна фраза нашага кіраўніка тургрупы, якога беларусы папрасілі звязацца для высвятлення абставін з Мінскам: «Нічога страшнага не здарылася. Курс долара вырас у два разы, усе крупы і цукар у магазінах раскупілі. Адным словам, сітуацыя нармальная». І сапраўды, да такіх стрэсараў мы ўжо даўно прызвычаіліся: крупы можна набыць і на рынку, а долар у нас расце штодня.

Праўда, трэба прызнаць, што нярэдка стрэс можа адыгрываць і пазітыўную ролю, і нават рухаць наперад прагрэс. Трывога (толькі не паталагічная) актывізуе пошукавую дзейнасць чалавека, прымушае яго рабіць пэўныя крокі, каб павысіць свой сацыяльны статус. Без пачуцця трывогі чалавек многага проста не змог бы дасягнуць у жыцці. Тое ж з'яўленне ў нашай краіне класа бізнесменаў з'яўляецца своеасаблівай рэакцыяй пэўнай часткі нашага грамадства на стрэс, які мы перажываем апошняе дзесяцігоддзе.

### ЧАРКА — СТРЭСУ НЕ ПЕРАШКОДА

Калі стрэсавых сітуацый пазбегнуць немагчыма, то трэба навучыцца ім процістаяць. Кожнаму з нас неабходна навучыцца змагацца з нізкай самаацэнкай і ганарыцца сабой. Замест таго, каб папракаць сябе за тое, што штосьці не ўдалося зрабіць, лепш пахваліць сябе за штодзённую працу. Трэба імкнуцца заўважаць вакол сабе як мага больш добрага, бо ў адваротным выпадку пачнеш песімістычна ўспрымаць усё жыццё. Не пашкодзіць распрацаваць свае ўласныя спосабы расслаблення, і пажадана, каб іх было як мага больш. Гэта можа быць і цёплая ванна, і фізічныя практыкаванні, заняткі спортам, слуханне музыкі, прыемныя ўспаміны...

Абавязкова трэба падтрымліваць і вітамінныя запасы нашага арганізма, якія літаральна «згараюць» падчас стрэсу. У стрэсавым стане ў чалавека асабліва адчуваецца дэфіцыт вітамінаў С і В. Папоўніць іх дапамогуць квашаная капуста, чорныя парэчкі, яблыкі, ківі, пятрушка або вітамінныя комплексы. І ні ў якім разе нельга спадзявацца на алкаголь, цыгарэты, снатворнае. Яны даюць толькі бачнасць расслаблення, а на самай справе наносяць арганізму чалавека дадатковы «біяхімічны» стрэс.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

*«БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ»* чакае Вашае ахвяры!

## ПРАЧЫТАЙ І ЗАДУМАЙСЯ...

. . . Дзіўная лёгіка ў нашых чыноўнікаў! Дваццаць гадоў назад яны без усякага на тое права пераводзілі ўсе беларускія школы на рускую мову. Ніхто ня чуў і ня бачыў ніякага ўказу, загаду, пастановы. Усё рабілася беззаконна — насуперак законам! Сёньня мы чамусьці ня можам тое беззаконьне адмяніць, перавесьці назад тыя школы з рускай мовы ізноў на беларускую. Чаму? Чаму мы ўзаконьваем беззаконьне? Можа, таму, што прайшло дваццаць гадоў і яно, беззаконьне, набыло сілу закону? Дзіўная лёгіка! Сёньня мы рэабілітуем савецкіх людзей, якія загінулі ў часе культу Сталіна. Чаму-ж мы не рэабілітуем нашай школы, нашай мовы, якая была асуджана на выміраньне? Дзе справядлівасьць?

* * *

Наша грамадзтва ў культурных адносінах — на стадыі мата, на самай ніжэйшай стадыі чалавечых адносін. Як ні дзіўна, пошасьць зьнізу паўзе да самага верху. Мат-перамат літаральна апаганіў усё наша грамадзтва, ляюцца ня толькі дарослыя, а нават дзеці, нават дзяўчынкі, ня кажучы ўжо пра юнакоў...

* * *

Як нараджаецца нявер'е да чалавека? Са зла! Калі ты робіш чалавеку дабро, ты ўпэўнены, што гэты чалавек адплаціць табе (і ўсім) тым-жа — дабром. А як робіш зло, то перакананы, што і табе заплацяць тою-ж манэтаю.

Вось чаму Сталін так баяўся людзей і ня верыў ім. Ён, зрабіўшы людзям гэтулькі зла, меў для гэтага ўсе падставы — баяцца...

Цяпер у барацьбе за нашу мову мы калі і загінем, то гісторыя нас апраўдае і мо прызнае нават героямі, а калі мы прамаўчым, калі мы ня вернем страчаных пазыцыяў, не даб'ёмся дзяржаўнасьці сваёй мовы, мы праславімся як трусы і баязьліўцы на ўсе астатнія стагодзьдзі. І ўласны народ пракляне нас.

* * *

Ня помста, а заслужаная кара павінна спасьцігнуць усіх сталінскіх апрычнікаў, якія пралілі мора нявіннай крыві і сьлёз.

* * *

Нашы родныя русіфікатары з нашага ўраду і з чыноўніцкага корпусу нас ніколі не пераканаюць, не "дакажуць" нават сілаю міліцэйскае палкі, што наша беларуская мова горшая за рускую. Ад роднай мовы мы не адрачомся і будзем абараняць яе да канца.

*Уладзімір Дамашэвіч*, у «ЛіМе»



## Звычайны аншлюс

Гэта мае адносіны да праекта дамовы аб стварэнні саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. Праект туманны. Яго артыкулы, раздзелы, дакумент цалкам, можна інтэрпрэтаваць, як захочаш. Калі ўлічваць тое, што афіцыйная прапаганда днем і ноччу падае праект як недасканалы маленькі крок у стварэнні адзінай дзяржавы, абедзве часткі якой будуць сувярэннымі, то гэта мне бачыцца як шырма, за якой рыхтуецца інкарпарацыя Беларусі ў Расію, — звычайны аншлюс. Тым болей, што ў адной з радыеперадач адзін з распрацоўшчыкау праекта сцвярджаў, што канчатковай мэтай зьяўляецца стварэнне саюзнай дзяржавы з адзінай мяжой, адзіным кіраўніцтвам, адзінай валютай, адзінай арміяй.

Не разумею, дзеля чаго ў такім разе прамываць людзям мазгі якімсьці беларускім суверэнітэтам? Будзе гэта Расійская імперыя (новага СССР стварыць немагчыма), у якім Беларусь у лепшым выпадку стане «Северо-Западным краем» з цэнтрам у Мінску—Новай Вільні. Але хутчэй за ўсе дзяржава будзе рана ці позна раздроблена ў шэсць суб'ектаў Расійскай Федэрацыі з усімі вынікаючымі для Беларусі наступствамі пагашэньня расійскіх замежных запазычаньняў, падпарадкаваньня расійскаму крымінальнаму капіталу, вырашэньня расійскіх праблем Паўночнага Каўказа...

Я супраць такой «інтэграцыі». Я хацеў бы жыць у вольнай Беларусі, інтэграванай у Еўропу. Так думаюць многія мае знаемыя, але моўчкі: у адных апатыя, другія баяцца гаварыць.

Нельга не сказаць некалькі слоў аб акцыі 17 кастрычніка.

Я не зьяўляюся членам якой-небудзь палітычнай плыні. Мае адносіны да акцыі супярэчлівыя. Але падаецца мне, што калі аншлюс адбудзецца, то акцыя стане прэлюдыяй выхаду на палітычную арэну сучаснага Кастуся Каліноўскага. І правакуюць гэтую зьяву не вулічныя дэмакраты, а тыя, хто вядзе Беларусь да аншлюсаРасіяй.

**Міхаіл Цітоў, 69 год.**

" Белорусская деловая газета "

## Разважаньні пра народ,

што ён (быццам) быдла, яны ж не ад рэчы. Народ дурны. Але хто з нас, халера, вумны? Мы ж гэта таксама народ. І мы таксама, кожны па-свойму, шмат у чым дурныя. Але ж, скажам, падчас перапісу выявілася, што, нягледзячы на собскую дурасьць кожнага з нас, кожны з нас мае даставткова розуму, каб хоць аднойчы плюнуць Лукашэнку ды Расеі ў храпу. Ажно 80 адсоткаў 'дурнога народу' пайшлі насуперак Лукашэнку ды Расеі хаця б у тым, што наважыліся адкрыта назваць сябе беларусамі. А называлі сябе беларусамі і беларусы, і татары, і габрэі, і немцы, і расейцы, і венгры, і палякі. Яны ж заявілі, што беларуская мова для іх родная. І ажно палова з гэтага 'дурнога народу' заявіла, што беларуская мова для іх хатняя-штодзённая, нягледзячы на тое, чаго ад іх чакаў ды патрабаваў Лука. Зрэшты, прачытайце ды прааналізуйце самі вынікі гэтага клятага перапісу.

Не, спадары. Вы звыклі скардзіцца, што камандыры ёсьць, ды жаўнераў нямашака. А сапраўды жа, як заўсёды было, ажно зашмат у нас жаўнераў - надзейных камандыраў няма.

Народ і раней, як гаворыцца, быў гатовы. Гатовы й цяпер. Але ну аніяк ня можа ўбачыць надзейнага камандыра. Шушкевіч? Без камэнтарыяў. Шарэцкі? Без камэнтарыяў. Пазьняк? Адтуль як ён уцёк, зашмат хто вырашыў, што 'уцёк, бо бездапаможны'.

Адзіна дрэнна, што пакуль народ гатовы (МЫ гатовыя) скінуць Луку, але пайсьці за падобным жа, калі ня горшым, Лукою.

Яшчэ горай тое, што пакуль ані мяне, ані кагосьці з маіх родзічаў ды знаёмцаў магчымасьць новага нават горшага 'Лукі' не палохае - маўляў, толькі б быў зрух наперад.

**Далейшыя ахвяраваньні на Беларускі Музэй у Гайнаўцы, Беласточчына...**

**220. Людміла Лабовіч-Колін $50.oo**

**Прадаўжэньне ЛІСТЫ ахвярадаўцаў у наступным № нашае газэты...**

**Моцна просім нашых чытачоў перасылаць свае ахвяры на Музэй на наш адрас, на прозьвішча М. Прускі.**

**Увага! Увага!** **Калі Вы, паважаны чытач, з нейкіх прычын, не змаглі пераслаць Вашую ахвяру дасюль, зрабіце гэта цяпер. Акцыя збору ахвяраваньняў даходзіць да канца. Чакаем на водгукі... Дзякуем за ўвагу!**

## Дасланае ў апошнюю хвіліну...

25-га студзеня 1999 г. часовы прэзыдэнт Расеі Ул. Пуцін стаў "прэдседателем" Рады кіраўнікоў дзяржаў СНГ. Некаторыя кажуць, што Пуцін нібы задэкляраваў адказ Расеі ад палітыкі "старшага брата" ў СНГ. Аднак гледзячы на ўсё, розныя дэкларацыі застаюцца толькі дэкларацыямі, і ўсе гэтыя СНГ — курам на сьмех...

— *—

На Беларусі дзяржаўную ўладу асядлала маскоўская "пятая калона". Палкоўнікі КГБ і расейскія сталінцы панэтруюць беларускую дзяржаву зусім адкрыта і напорыста. Пры гэтым стараюцца зьнішчыць беларускую культуру, традыцыі, мову і незалежнасьць. Горка прызнаць, што рускім сталінцам памагаюць і свае гадоўлі здраднікі і калабаранты, як Лукашэнка, — ды гэта-ж толькі ўсякія лакеі і рабскія натуры. Але гэта часова, бо час працуе не на іх карысьць. Іх чакае пакараньне і сьметнік...

— * —

Інкарпарацыя Беларусі ў склад Расеі напэўна ператворыць гэты рэгіён у гарачы пункт Эўропы. Пачнуцца ўзрывы на нафта- і газаправодах, напады на вайсковыя групоўкі, рост супрацьрускіх настрояў... Партызанская вайна будзе непазьбежнаю... І тады Масква няхай наракае на сябе, бо праглынуць Беларусь ёй не ўдасца, — яна падавіцца...

Марыі Шарай — старэйшай жыхарцы Беларусі, 2-га студзеня споўнілася 122 гады. Жыве яна ў вёсцы Верхнія Жары на Гомельшчыне. Усё жыццё працавала на гаспадарцы.

Паводле перапісі 1999 г. на Беларусі пражывае 981 чалавек старэйшых за 100 год жыцьця — 877 жанчын і 104 мужчын.

* * *

Сп. Рэдактар!

...Як маю разумець словы пад фінансавай справаздачай — "каб паменшыць пачтовыя ды іншыя выдаткі, мы вымушаныя не высылаць газэту усім тым, хто нас не падтрымоўвае..." Я выслаў сваю ахвяру ў 1998 г., а ў мінулым 1999 годзе выслаць ахвяру проста забыўся... Ці мне таксама высылаць газэту перастанеце?..

З пашанай, У.

Высылаць газэту Вам будзем. Такіх выпадкаў у нас дзесяткі і дзесяткі... Мы мелі на ўвазе тых чытачоў, што гадамі чытаюць нашу газэту, але ніколі не адгукнуліся на нашыя просьбы аб дапамозе, — ні так, ні не...



Каб прачнуўся беларус
Ў цемры беспрасьветнай,
Мусіць, трэба землятрус
І патоп сусьветны.

Крыўдзяць беларуса, а ён стаць і маўчыць.
-- Цябе ж крыўдзяць, а ты маўчыш чаму?
-- Няхай крыўдзяць, абы не білі.
-- А як будуць біць?
-- Няхай сабе б'юць, абы не забілі.
-- А як будуць забіваць?
-- Няхай забіваюць, абы не крыўдзілі.